
Славамір ТРАШЧОТКА → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Орля пры санацыі → 9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 23 (3343) Год LXV

Беласток, 7 чэрвеня 2020 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



# Людзі масава наведвалі Крыначку

Дубы на паляне каля царквы

Асаблівым месцам у Белавежскай пушчы, распаложаным непадалёк Гайнаўкі, з'яўляецца ўрочышча Крыначка. Над крыніцай ва ўрочышчы першапачаткова пастаўлены быў драўляны, а пасля мураваны калодзеж, а побач яго была ўзведзена капліца. Гэтае падмоклае месца перад асушэннем Белавежскай пушчы акружала балацявіна. Не даходзячы да крыніцы, на ўзвышшы сярод дубоў у XIX стагоддзі была збудавана царква святых братоў мучанікаў Макавеяў, маці іх Саламаніі і настаўніка Елеазара. Зараз збоку царквы захоўваецца паляна са старымі дрэвамі. На другі і трэці дзень Святой Тройцы паляна цяпер запаўняецца машынамі, а ў мінулым — фурманкамі. Многія вернікі пяшком паломнічалі ў Крыначку. Зараз намнога менш людзей жыве на Гайнаўшчыне і менш людзей стала збірацца на малітву ў гэтым святым месцы. Як будзе ў гэтым годзе, складана прадбачыць. У перыяд Вялікадня, калі паявіўся дазвол на пабыўку ў лесе дзеля рэкрэацыі, многія вернікі наведвалі Крыначку, перш за ўсё ў выхадныя дні.

На Беласточчыне знаходзіліся многія крыніцы з жыватворнай вадой, да якіх ішлі і прыязджалі паломнікі. На Гайнаўшчыне вельмі прызнанай з'яўляецца крыніца ва ўрочышчы Крыначка. Успаміны і пераказы продкаў аб гэтым месцы сягаюць часу Расійскай імперыі і міжваеннага перыяду. Тады на Гайнаўшчыне мясцовыя жыхары ішлі або ехалі на фурманках у Крыначку. Пілі тут ваду, абмывалі ёй хворыя месцы і частка паломнікаў атрымлівала аздараўленне або аблягчэнне ў хваробе. Ваду з крыніцы прывозілі таксама дамоў для патрабуючых сямейнікаў.

На падставе дакументаў ведаем, што багаслужбы ў царкве ў Крыначцы адбываліся ў час святкавання ў гонар святых братоў мучанікаў Макавеяў, маці іх Саламаніі і настаўніка Елеазара — нябесных заступнікаў збудаванай у 1848 годзе царквы на паляне ў Белавежскай пушчы. Зараз таксама ва Успенскі пост у гэтым месцы адбываецца ўрачыстае святкаванне ў гонар святых патронаў царквы. Лічыцца, што толькі ў канцы XIX стагоддзя людзі сталі збірацца і маліцца ва ўрочышчы Крыначка на другі дзень Святой Тройцы, а яшчэ пазней на трэці дзень гэтага свята. Тады паломнікі сталі прыходзіць і з'язджацца з розных накірункаў і каб магчы іх памесціць разам з фурманкамі на паляне, багаслужбы былі раздзеленыя на два дні Святой Тройцы. На другі дзень святкавання, у панядзелак, у Крыначку сталі дабірацца жыхары з усходняга і паўночнага напрамкаў. Зараз большасць гэтай тэрыторыі знаходзіцца ў Рэспубліцы Беларусь і цяпер у святочны панядзелак у Крыначцы моляцца ў галоўным вернікі Дубінскага прыхода. На трэці дзень Святой Тройцы ў гэтае асаблівае месца прыбывалі перш за ўсё вернікі з заходняга і паўднёвага напрамкаў. З часам трэці дзень стаў святам усіх паломнікаў.

У Крыначцы ў апошнім перыядзе было выкананых многа рамонтных прац. Прыгожа адрамантаваныя былі царква, капліца і ўпарадкаванае наваколле. Настаяцелем Дубінскага прыхода, да якога належыць гэты комплекс, амаль да канца 2018 года быў протаіерэй Мікалай Кулік. Цяпер настаяцелям з'яўляецца протаіерэй Андрэй Буслоўскі, шматгадовы настаўнік Божага закону ў Гайнаўскім белліцэі і шматгадовы апякун аддзялення Брацтва праваслаўнай моладзі, якое дзейнічала пры Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы. У час мінулагодніх святкаванняў заўважыў я ў Крыначцы вялікую заангажаванасць моладзі, якая абслугоўвала вернікаў. У айца Андрэя Буслоўскага ёсць ужо новыя планы наконт Крыначкі і збіраюцца сродкі, каб давесці сюды электрычную энергію. Протаіерэй Яўгеній Падгаецкі, які родам з Дубін, з'яўляецца аўтарам кніжачкі аб урочышчы Крыначка, у якой таксама адклікаецца на мясцовую гісторыю. Гісторыя Крыначкі пачынаецца з пасялення ў Белавежскай пушчы манахаў, якія ўцякалі з Кіева ад татараў. Са згаданай кніжачкі, іншых матэрыялаў і з расказаў мясцовага насельніцтва можна даведацца пра аздараўленне людзей, якія напіліся вады з крыніцы ў Крыначцы або абмылі ёй хворыя месцы. Я пачуў аповед пра чалавека, які крадком прыязджаў у Крыначку, пералазіў праз дзіру ў агароджы, набіраў ваду з калодзежа, прамываў ёй шчаку і так вылечыў пухліну на ёй.

Я ў дзяцінстве з вялікім зацікаўленнем слухаў расказ майго бацькі наконт аздараўляльнай моцы вады з Крыначкі, якой людзі масава аздараўляліся ад хвароб. Цяпер людзі надалей едуць у Крыначку з надзеяй на аздараўленне і дапамогу ў розных жыццёвых выпрабаваннях. Запамяталіся мне асаблівa выезды ў Крыначку ў раннім дзяцінстве з бацькамі і сямейнікамі на фурманцы. Пасля багаслужбы на трэці дзень Святой Тройцы вернікі рассцілалі пакрывалы каля вазоў і абедалі на свежым паветры. Наша сям'я абедала каля нашага воза або воза дзядзькі Міколы з Арэшкава. Тады была нагода спатыкацца з бабуляй, дзядуляй і сваякамі. Людзі тады гуртаваліся ў крузе сям'і або суседзяў, пакольку ў час, калі адны ішлі памаліцца або набраць асвечаную ваду з крыніцы і абмыцца ёй, другія наглядалі за коньмі. Бывала, што коні былі неспакойнымі па прычыне кусլівых насякомых. Калі жанчыны рыхтаваліся да абеду, дзеткі з бацькамі ішлі да «страганаў», як называлі ларкі з цацкамі і цукеркамі, ды вярталіся адтуль з цікавымі пакупкамі. Мая бабуля Аляксандра ўспамінала, як у палове дваццатых гадоў мінулага стагоддзя якраз на Тройцу вянчалася з дзядуляй Юліянам у царкве ў Крыначцы. Пакольку жылі ў Арэшкаве, якога вернікі тады належалі да Дубінскага прыхода, многа жыхароў гэтай вёскі вянчалася менавіта ў царкве ў Крыначцы, якая была распалажана ў палове дарогі паміж іх сядзібамі і прыхадской Успенскай царквой у Дубінах. Стаўлянне свечак, малітвы, абмыванне вадой хворых месцаў, выціранне іх загадзя падрыхтаванымі дома ручнікамі, пакіданне іх на сетцы з калючым дротам і, канешне, пакупкі і абед стваралі незвычайную атмасферу. Пазней вернікі, не спяшаючыся, вярталіся дамоў і ўсё гэта пакінула незабыўны адбітак на ўсё жыццё. Пазней у святое месца мы дабіраліся на возе, які цягнуў ужо не конь, а трактар. Звычай абедаць пасля багаслужбы на паветры з часам звёўся. Пазней на трэці дзень Святой Тройцы я ўжо не наведваў Крыначкі, пакольку вучыўся ў школе.

На працягу апошніх дваццаці гадоў сталі хадзіць арганізаваныя пешаходныя палом-

чытайце ☞ 10





# Харызма і крах

Усе планы адных і прагнозы іншых наконт ціхай хады прэзідэнцкіх „выбараў" у Беларусі і чарговага спакойнага пераафармлення неабмежаванай нічым улады „вечнага гаранта стабільнасці" рухнулі. Ні то пандэмія каранавіруса, ні то нарастаючая актыўнасць зоркі па імені Сонца, якую фіксуюць навукоўцы-астраномы, ні то накопленая за дзесяцігоддзі нейкая іншая энергія, а хутчэй, усё разам — зблыталі мечаныя карты палітычным шулерам. Беларускі народ нечакана для многіх пайшоў на плошчу. Пайшоў выказаць свой пратэст Аляксандру Лукашэнку і яго бліжэйшаму атачэнню. За 26 гадоў свайго кіравання ён настолькі стаміў, абрыд, і як кажуць „дастаў" людзей, што тыя гатовыя прагаласаваць за каго заўгодна, толькі не за былога куміра народных мас, уся прывабнасць якога засталася далёка ззаду, у мінулым стагоддзі.

Класік літаратуры неяк казаў: тут зямля такая, што калі пасадзіць аглоблю, то неўзабаве вырасце тарантас. Перафразуючы яго, можна смела сцвярджаць, што калі сёння ў выбарчы бюлетэнь надрукаваць прозвішчы Лукашэнкі і нават зусім новага невядомага чалавека, які выступіць супраць яго, цяперашні кіраўнік дзяржавы з трэскам прайграе. Цяпер ужо не толькі сацыялагічныя апытанні, якія даюць яму не больш 10% падтрымкі, але і цэнтральныя плошчы розных беларускіх гарадоў, нават невялікіх раённых, яскрава паказваюць гэты недавер. Яшчэ паўгода таму гэтыя людзі стаялі ў кіламетровых чэргах на мяжы, таўкліся ў літоўскіх і польскіх супермаркетах, на беларускіх рынках. Зараз гэтыя ж людзі, пераважна маладыя, стаяць па дзве-тры гадзіны на плошчах, каб падпісацца за вылучэнне Святланы Ціханоўскай, пра якую месяц таму ніхто не чуў. Яны стаяць цярпліва нават у дождж, стаяць у масках у час эпідэміі, каб выказаць свой пратэст канчаткова збанкрутаваўшаму „адзінаму палітыку" ў гэтай краіне.

Аляксандра Лукашэнку не праз тэлевізар я бачыў толькі адзін раз — у тым самым далёкім 1994 годзе, калі ён вёў перадвыбарчую агітацыю на першых і фактычна апошніх прэзідэнцкіх выбарах. Ён выступаў з балкона гарадзенскага Палаца тэкстыльшчыкаў, а людзей, пераважна сталага і пенсійнага ўзросту, нейкай магутнай хваляй энергетыкі літаральна трэсла як на сеансе масавага псіхалагічнага гіпнозу. Тады стала зразумела, што гэтая асоба мае магутную харызму і ўплыў на глыбінныя інстынкты народных мас. Таму і прагаласавала тады за яго большыня выбаршчыкаў. Хоць для несавецкіх людзей паводле светапогляду ўжо тады была яскрава зразумелая сутнасць гэтага палітыка. Але, як выяўляецца, нішто, нават харызма, не бывае вечным. Ад былой даўняй папулярнасці старога альфа-самца не засталося і следу. Зараз на той самай плошчы ў Гродне можна ўбачыць зусім іншы народ, новае пакаленне, пераважна гэта людзі ад 25 да 40 гадоў, якія стаяць гадзінамі, каб выказаць свой недавер цяперашняй уладзе. Бачыць гэта ўсё і палахлівая наменклатура, гатовая здрадзіць свайму патрону пры першай яго слабасці. Усе бачаць і крах урадавай прапаганды. Праўдападобна незалежны інтэрнэт і халадзільнік урэшце перамагаюць уладны тэлевізар.

А тым больш сярод знешне інтэлігентных наменклатурных кандыдатаў у прэтэндэнты і некалькіх палітычных фрыкаў, на авансцэне з'явіўся чалавек таксама з відавочнай харызмай. Гэта блогер Сяргей Ціханоўскі, якога пасадзілі за краты і не далі нават зарэгістраваць ініцыятыўную групу, тады дакументы на сваю рэгістрацыю падала яго жонка. За яе вылучэнне, ды і за іншых прэтэндэнтаў падпісваюцца так актыўна, што гэта немагчыма не заўважыць. Тым часам як улада баіцца выстаўлянь публічныя пікеты за Лукашэнку, іх няма ўвогуле! За яго людзей адміністрацыя прымушае падпісвацца ў працоўных калектывах.

У такой сітуацыі ўлада зноў робіць стаўку на сілавыя метады і звыклую „дубіну". Толькі цяпер яна не чакае нават дня галасавання, як у 2010 годзе, баіцца чакаць, каб сітуацыя не выйшла з-пад кантролю. Ужо зроблена правакацыя супраць Ціханоўскага і яго паплечнікаў у Гродне і пачатая крымінальная справа нібыта за збіццё міліцыянта. У розных гарадах ідуць затрыманні. Падобна на тое, што рэпрэсіі будуць толькі нарастаць.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Пра мізантропію

Калі парадыгма якасці саступае месца парадыгме колькасці, пачынае ісці блага. Хоць і добра, бо, паводле марксісцкай дыялектыкі, колькасць у фазе найбольшай інтэнсіфікацыі імкліва пераходзіць у якасць. Цяпер у нас усяго лішак. Нават палітыкі ў палітыцы. У той жа час палітычныя лідары якасна слабеюць і слабеюць эліты ўлады, на якія яны спадзяюцца. І, што натуральна, бенефіцыянтаў такой карлікавай улады імкліва павялічваецца. Больш за тое, такая ўлада мае ў іх сваю апору. Прыклад Польшчы і Беларусі тут відавочны. Але не лепш у ЗША, Расіі ці любой краіне свету. Права пасрэднасці з'яўляецца ўніверсальным і глыбока пранікае ў структуры дзяржавы. Колькасць душыць якасць. Аднак, у адпаведнасці з цыклічнай карцінай змен, гэта знак таго, што ўсё ідзе ў добрым, разумеючы дыялектычна, кірунку. Паводле яго закону, колькасць павінна рана ці позна змяніцца ў якасць. Толькі тое, што якасць новая і з сённяшняга пункту гледжання зусім бясконцая, бо яна арганізуе парушаны парадак таксама непрадказальна, таму таксама выклікае страх і трывогу. Нягледзячы на суцяшэнне, якое выклікае ўсведамленне таго, што кожны цыкл змяненняў мае свой пачатак і канец і што ён паўтараецца ў гісторыі чалавецтва з пэўнай паслядоўнай перыядычнасцю, пасля глыбокага роздуму я сцвярджаю, што гэта дрэнна. Таму што, калі даверараць нязменнасці гістарычных цыклаў, кожнаму этапу паміж сапсаванай якасцю, замененай колькасцю, і рэзкім пераватварэннем колькасці ў якасць, папярэднічае вялікае парушэнне ў маштабах цэлых грамадстваў, званае таксама «цікавымі часамі».

Усё мяняецца перад маімі вачыма занадта хутка, і таму я не магу адставаць. Я ментальна не ўспрымаю новых будынкаў маёй вёскі, гэтых мураваных дамоў а-ля шляхецкая сядзіба, выстрыжаных газонаў на пад'ездах і суседзяў усё больш незнаёмых людзей. І тут мне больш за ўсё баліць. У гэтых апошніх быў згублены дух супольнасці. Натуральны клопат пра суседа замяніўся афіцыйным клопатам работнікаў Гмiннага цэнтра сацыяльнай аховы насельніцтва. ГЦСАН — дзяржаўнае агенцтва. Мне здаецца, што дзяржава ўсё больш бярэ на сябе функцыі супольнасці і нават сямейныя, і чым больш міжасобасных сувязей знікае, тым больш імкліва дзяржава іх замяняе. Не толькі польская дзяржава, бо адміранне сацыяльных сувязей гэта паказчык сучаснай сусветнай цывілізацыі. Гэтага мы хацелі? У выніку яго ўздзеяння сацыяльныясувязіразбураюцца, становяцца адчувальнымі да інструменталізацыі і нават да маніпуляцый. Яно прыводзіць, як пісаў у «Сацыялогіі» праф. Пётр Штомпка, да таго, што «сувязі сумеснага пражывання, этнічныя, рэлігійныя або класавыя падабенствы парушаюцца. У гэтым месцы (...) з'яўляецца «самотны натоўп», які лёгка паддаецца лозунгам дэмагогаў, якія імкнуцца да моцнай, бацькоўскай улады, паддаецца спакусе самадзяржаўнага ці нават таталітарнага «права і парадку», ахвотна далучаючыся да розных грамадскіх рухаў у пошуках заменных сувязей і альтэрнатыўных супольнасцей, кампенсуючы расчараванне і адзіноту ў разбуральных і антысацыяльных дзеяннях».

Мне падабаецца прачынацца раніцай з перакананнем, што наступны дзень стане лепшым працягам папярэдняга дня. Што буду чытаць кнігі больш старанна, пісаць разумней, думаць больш. Пакуль што — прыблізна. Я амаль не бачу сваіх суседзяў. І тым больш не размаўляю з імі. Большасць маіх знаёмых і сваякоў ужо ходзяць па асфодэлевых лугах — я далучуся да іх праз нейкі час. Непазбежна. Таму займаюся самім сабой, наколькі я магу. Дастаткова, думаю. Аднак ведаю, што паток часу на самой справе з'яўляецца вынікам розных хаатычных падзей, звычайна незалежных ад мяне, якія могуць лёгка змяніць свой прагназуемы ход. Напрыклад, хай маю раніцу ўстурбуюць прыемныя, але няпрошаныя госці, якія па дарозе з Кракава ў Белавежу вырашылі заехаць да хвіліну да мяне. Такая сітуацыя паўтараецца практычна кожны дзень, асабліва ў летні сезон.

Некаторыя госці выязджаюць са сваімі аўтамабілямі, іншыя прыязджаюць. Ці могуць польскія дарогі быць больш дзіравымі? О не! Дзяржава ведае маё імя, прозвішча і месца жыхарства. Яна клапоціцца пра мяне, таму наўмысна адрамантавала дарогі, якія вядуць у маю вёску. Але дзяржава патрабуе ад мяне ўсё больш. І чым больш, тым больш цяперашняя ўлада прысвойвае сабе. Аднак я папярэджваю ўладу, што гэта можа прывесці мяне да крайняй мізантропіі! І каб толькі мяне. Таксама дзяржаву.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Адпачыць ад каранавіруса

Тыдзень таму назад апісаў я свае адчуванні звязаныя з адсутнасцю майскага цяпла і незвычайнай халадэчу як на гэтую пару года. Аказваецца, назіранні ўсіх нас пацвярджаюць і навукоўцы. Мінулы месяц з'яўляецца самым халодным за мінулыя 29 гадоў. Халадней было толькі ў 1991 годзе. Метэаролагі прагназуюць, што гэта будзе адразу пераход у пачатак халоднага лета. Памятаем папярэднія гады, калі спёка гасцявала ва ўсёй Еўропе і неміласэрна надакучыла яе жыхарам, са смяротнымі выпадкамі ўключна. У гэтым летнім перыядзе мае быць інакш — тэмпература да 25 градусаў, гвалтоўныя буры з градам і вялікімі вятрамі напераменку з засухай і лакальнымі падтапленнямі. Адным словам, поўная неразбярыха. Але толькі рэальна пеpажытае дасць нам адказ, якое надвор'е было летам гэтага года. Пішу пра летняе надвор'е яшчэ па адной прычыне. Менавіта год таму назад у гэтую пару амаль усе аб'яўлялі ў сацыяльных сетках пра свае канікулярныя планы экзатычных вандровак па ўсім свеце. А больш спрактыкаванаыя і сарыентаваныя ў сферы турыстычнага бізнесу яшчэ мінулагодняй восенню выкупілі адпачынкавыя пакеты ў цікавых ім месцах.Так прынамсі рабіла штогод шмат маіх знаёмых, каб потым хваліцца сваімі фоткамі з пабачанага і з'езджанага. Адна з версій паходжання сённяшняй заразы можа і мець месца ў адным з такіх „экзатычных куточкаў яды" ў кітайскім горадзе Ухань. Проста, турыстычны, экзальтаваны канзумерызм. А тут каранавірусны землятрус расклаў амаль зусім да нуля гэтую вельмі прыбытковую галіну сусветнай эканомікі. Усе пачалі адмяняць свае рэзервацыі. Гатэлі, перавозчыкі, турыстычныя бюро ўвайшлі ў час пустэчы. Наступіў час без кліентаў і без грошай. Прывід і рэальнасць банкрутстваў у гэтай сферы разліліся па ўсім свеце. З турыстычным бізнесам звязаныя і многія іншыя адгалінаванні гаспадаркі. У час сытасці і глабалізму менавіта турызм меў стаць цудоўным лякарствам на ўсе эканамічныя турбулентнасці і закрыванне прамысловай сферы. Для некаторых дзяржаў турызм з'яўляецца асновай нацыянальнага бюджэту. Таму пандэмія каранавіруса гэта не толькі сухія эканамічныя паказчыкі, але рэальная чалавечая трагедыя грамадстваў, арыентаваных на такі спосаб выжывання. Бачым таксама як зараз дзяржавы хочуць ратаваць летні турыстычны сезон і таму з такой хуткасцю пачынаюць здымаць эпідэміялагічныя абмежаванні не толькі ўнутры краіны. Адкрываюцца таксама межы і пасажырскія авіярэйсы. Усе свядомыя, што без заробленых зараз людзьмі грошай восенню будзем мець такія грамадскія хваляванні, маштаб якіх проста непрадказальны.Таму кіруючыя як мантру паўтараюць увесь час, што восенню чакае нас другая хваля каранавіруснай інфекцыі з яшчэ большым узбуйненнем ліку хворых. Ствараецца адным словам закрытае кола каранавіруснай эканомікі і чалавечага выжывання. Відаць, як часта адмоўна дзейнічае тут статкавы інстынкт свабоды. Дастаткова паглядзець, што дзеецца зараз на вуліцах і пляжах Італіі, Іспаніі, дзе патрабаванняў бяспекі многія ізноў увогуле не прытрымліваюцца. Эпідэміёлагі стараюцца заклікаць людзей да самаадказнасці, але ізноў гэта гуканне па глухім лесе. Вядома, што ў самаізаляцыі людзям доўга не вытрымаць. Мы сёння не ведаем і не зможам ацаніць колькі і якіх толькі псіхічных захворванняў прынясе гэты перыяд. Выявяцца неўрозы, дэпрэсіі, грамадская дысфункцыйнасць і да гэтага рост колькасці выпітага алкаголю грамадствам, які выльецца ў сваю чаргу ростам хворых на алкагалізм. Не ведаю я дакладных даных наконт продажу, але побач блока, дзе я жыву, знаходзяцца два аўтарытэтныя пункты. Першы — сметніца для шклатары, якая маланкава запаўняецца пустымі бутэлькамі з-пад усяго роду спіртных напіткаў. Другое месца — гэта невялікая алкагольная крама, дзе прадаўшчыца на маё пытанне пра тавараабарот у час пандэміі адказала толькі задаволеным рухам галавы, усмешкай і словамі „лепей не трэба". Таму вырвацца з заразы каранавіруса як збаўлення патрабуюць не толькі нашы целы, але і душы.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр? Што ж за пытанне? Вядома, што складанасць. Калі б далі матэматыку ці фізіку добраахвотна, таксама многія не хацелі б вучыцца.

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Калі я вучыўся ў ліцэі, любіў урокі беларускай мовы. На беларускую філалогію выбіраліся вельмі прыгожыя дзяўчаты: Аля, Марыля і Галіна. Я таксама рашыў паспрабаваць сваіх сіл і дастацца на філалогію ў сталіцу. Навука ішла не найгорш. Пасля заканчэння прыйшлося працаваць настаўнікам у школе. Працаваў у Вульцы-Нурэцкай, потым у Саках, а калі закрылі школу ў Саках, пачаў працаваць настаўнікам у Кляшчэлях, а з 2009 года з'яўляюся дырэктарам Пачатковай школы ў Кляшчэлях.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Добрым настаўнікам і шчырым беларусам быў Васіль Сакоўскі, настаўнік Гайнаўскага беларускага ліцэя. Адначасова быў таксама класным кіраўніком.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Як дырэктар я вымушаны працаваць з рознымі ўстановамі, між іншым часта даю інтэрв'ю для беларускіх перадач Радыё Беласток, Радыё Рацыя. Супрацоўнічаю са школай у Дзмітровічах, што на Камянеччыне. Мы туды ездзім, да нас прыязджаюць вучні і настаўнікі з Беларусі.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Найбольш дапамагае бургамістр горада Кляшчэлі. Многа настаўнікам беларускай мовы дае тое, што наша сяброўка Аліна Ваўранюк піша падручнікі для малодшых класаў і дзякуючы таму мы можам імі карыстацца ў сваёй штодзённай працы.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— У нашай школе некалькі гадоў запар праводзіўся турнір па валейболе на кубак «Нівы», бо жаночая дружына з Кляшчэляў заўсёды выйгравала. Удзел у турніры прымалі вучні са школ, у якіх вядзецца навучанне беларускай мове.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Апошнім часам нашы вучні не ўдзельнічаюць у конкурсах. У нас мала вучняў вывучае родную мову.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Можам разлічваць на дапамогу бацькоў і асяроддзя, бо на каго ж іншага разлічваць? Запрашае нас часта на выстаўкі, спектаклі наш асяродак культуры „Гладышка". Бываю з вучнямі ў нашага скульптара Славаміра Смыка, які вядомы далёка па-за межамі Польшчы.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Што ж за пытанне? Вядома, што складанасць. Калі б далі матэматыку ці фізіку добраахвотна, таксама многія не хацелі б вучыцца.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Так, магу.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

...

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— У старэйшых класах зусім не дапасаваныя. Відаць, няма каму іх пісаць.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— „Са спадчынай у будучыню" Тамары Русачык.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Ларыса Геніюш.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Зусім не чытаю ніякіх кніжак. У вольных хвілінах гляджу спартыўныя праграмы, хаця сам не займаюся спортам.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— ...

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— «Басовішча» і «Бардаўская восень».

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— І ў школе, і па-за школай, размаўляю з вучнямі на гаворцы.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Ёсць розныя.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Наша будучыня.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Ёсць настаўнікі, лекары, журналісты і многія іншыя.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Раз на некалькі гадоў здараліся грашовыя ўзнагароды.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Калі ўсё ўдаецца — гэта і ёсць натхненне.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Беларусаў будзе штораз менш у Польшчы і ў Беларусі. Асіміляцыя ўсё ж наступае.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**



**Славамір ТРАШЧОТКА** — беларусіст. Нарадзіўся ў вёсцы Старое Беразова на Гайнаўшчыне. Пасля заканчэння беларускай і рускай філалогіі на Варшаўскім універсітэце стаў працаваць у Пачатковай школе ў Вульцы-Нурэцкай, пасля ў Саках каля Кляшчэляў. З 2009 года кіруе Пачатковай школай у Кляшчэлях. Жыве ў Бельску-Падляшскім.

# Тапачкі і тараканы

Нашы «ніўскія» гродзенскія карэспандэнты Віктар Сазонаў і Уладзімір Хільмановіч перыядычна інфармуюць сваім суб'ектыўным поглядам і пра палітычныя падзеі ў Рэспубліцы Беларусь. Фельетон Уладзіміра Хільмановіча ў гэтым нумары паказвае тую з'яву ў беларускім грамадстве, якую найкарацей можам назваць патрэбай палітычных змен у краіне. Прызначаныя на 9 жніўня 2020 года прэзідэнцкія выбары ў Беларусі мелі быць толькі нічога не вырашальнай падзеяй на фоне каранавіруса і летніх канікулаў і даць чарговы тэрмін уладарання кіраўніку дзяржавы Аляксандру Лукашэнку. А тут маем поўныя ангажаванасці і пратэстаў масавыя зборышчы беларусаў у адкрытых, гарадскіх прасторах краіны дзеля таго, каб паставіць подпісы падтрымкі на ўсіх кандыдатаў апрача асобы нумар адзін у беларускай палітыцы. І з'ява абсалютна неардынарная. Кандыдаты з розных гульнявых палёў і груп інтарэсаў аказваюць сабе пашану і ўзаемадапамогу на гэтай стадыі выбарчай кампаніі — збірання подпісаў за кандыдатаў. А тут трэба іх нямала — аж 100 тысяч дзеля рэгістрацыі. У рэальнасці гэта будзе выклік толькі для некаторых з пятнаццаці чалавек, дапушчаных Лідзіяй Ярмошынай і яе Цэнтральнай выбарчай камісіяй да гэтага этапу. Каго дапусціць яна і яе кіраўнік да чарговага этапу кантраляваных імі выбараў, ведаюць пакуль яны і толькі яны. Хіба, што менавіта грамадская актыўнасць і настроі пратэсту зменяць, або лепей сказаць, зломяць адпрацаваную гадамі сістэму фальшавання ўсяго выбарчага працэсу. Каб прынамсі стартануць у меру нармальных і роўных умовах для ўсіх сапернікаў. Хто ж яны, найважнейшыя завадатары гэтай успышкі грамадскіх настрояў? Гэта блогер Сяргей Ціханоўскі і яго жонка Святлана, якая выставіла сваю кандыдатуру за мужа, які сядзеў у арышце. Зараз у суботу ізноў быў арыштаваны ў Гародні. Гэта банкір Віктар Бабарыка, ці былы наменклатурны дыпламат і бізнесовец Валеры Цапкала. Сярод цікаўных кандыдатаў ёсць і яшчэ адзін Аляксандр Рыгоравіч... Таболіч, добра вядомы на Беласточчыне выступоўца на «Басовішчы», лідар гурту «Зніч» з цяжкім гучаннем. Іншыя кандыдаты не выклікаюць такіх эмоцый і спадзяванняў грамадства на магчымыя перамены. Рэальна кіруючы краінай Аляксандр Рыгоравіч пасля суботне-нядзельных грамадскіх акцый у панядзелак ужо заявіў і пастрашыў, што КДБ кантралюе сітуацыю, а ён не дапусціць да аніякай плошчы. Адно ўжо здаецца быць пэўным, палітычнае лета ў Беларусі можа быць гарачым.

Мяне вельмі зацікавіла і выява пратэсту мітынгоўцаў. Аказалася ім звычайная хатняя ...тапачка. Не кветкі, джынсы, колеры, але той хатні абутак, які ёсць вызначальнікам малой, прыемнай, хатняй спакойнасці.Тапачак, якім пры нагодзе можаш і ўкакошыць і таракана, калі раптам знойдзецца ў полі зроку, ці рукі. Бо ў прынцыпе ў такой хаце зжываешся са сваімі тараканамі, ад якіх нікуды не дзенешся. І так у такім сімбіёзе зжыліся чвэрць стагоддзя і беларусы са сваёй палітычнай сістэмай і яе вусатым кіраўніком. Тапачкі — стан духу беларускай спакойнасці і сямейнай бяспекі. Відаць, аднак, так угнявіла жыццё тапачных гаспадароў, што паважыліся пакуль зняць тапачкі з ног і ўзяць іх у рукі, каб пастрашыць тараканаў. Прапануем увазе нашых чытачоў фотаагляд зборкі подпісаў у Беларусі на мінулых выхадных.

Яўген ВАПА

Віктар Сазонаў

## Парода

Тым, хто хоча быць народам,
Трэба каб, ці так, ці сяк,
У людзей пайшла парода,
Ну хаця б, як у сабак.

Годны звер не хоча згубы,
І сябе ён адстаіць,
Калі што, пакажа зубы,
Можа нават укусіць.

Тут гісторыя, карэнні,
Свая праўда, свой падман,
І мінуўшчыны здарэнні,
І на будучыню план.

Як не біся, не круціся,
Не змяніць гісторый ход,
Хоць пайдзі і задушыся,
А народ ад слова „род".

І не трэба без патрэбы,
Агароджваць агарод,
Без карэння нават дрэвы
Не цвітуць. А тут народ...

І нічога там не будзе,
Дзе карэнні не ўраслі,
Толькі з імі хочуць людзі,
Быць сабою на зямлі.

Ды пакуль на людскасць мода
Не прыйшла, то хоць бы так:
Людзям трэба хоць парода,
Ну хаця б, як у сабак.

Вось яшчэ б, каб з той пародай,
Лепш было б, як не вазьмі,
Каб народу стаць народам,
Варта б людзям стаць людзьмі.



Мінск





Мінск





Віцебск


Брэст


Гродна



# Прагназавалі каранавірус гады таму?

Празорлівіца Сільвія Браўн дала дакладную дату яшчэ ў 2008 годзе. Прагназавала каранавірус 12 гадоў таму! У яе кнізе пад загалоўкам «**Канец дзён**» згадваецца захворванне дыхальных шляхоў, якое распаўсюдзіцца па свеце ў 2020 годзе. Хто такая Сільвія Браўн?

Сільвія Селеста Браўн была амерыканскай пісьменніцай і выдаўцом, якая абвясціла сябе псіхічным экстрасэнсам. Атрымала значнае прызнанне. Яе кніга




Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

«Канец дзён» выйшла ў 2008 годзе і цяпер стала папулярнай тэмай дзякуючы свайму зместу. Браўн памерла ў 2013 годзе ва ўзросце 77 гадоў. Сільвія Браўн выклікала шмат спрэчак. У дадатак да кнігі Браўн неаднаразова заяўляла, што дзякуючы яе здольнасці мець зносіны з прывідамі, яна можа прадбачыць будучыя падзеі. Яе выказванні на гэты конт сустракаліся з крытыкай, таму што яе неаднаразова абвінавачвалі ў фальшывых паведамленнях. У сваёй кнізе Браўн пісала ў 2008 годзе, што пэўная хвароба дыхальных шляхоў распаўсюдзіцца па ўсім свеце ў 2020 годзе: *Каля 2020 года па ўсім свеце распаўсюдзіцца сур'ёзнае захворванне, падобнае на пнеўманію, якое закране лёгкія і бронхі. Гэта будзе супрацьстаяць усім вядомым метадам лячэння. Больш дзіўным, чым сама хвароба, стане тое, што яна раптам знікне, як з'явілася, але праз дзесяць гадоў зноў нападзе, а потым і зусім прападзе.*

Хоць гэта больш суб'ектыўны прагноз без галоўных цытат, той факт, што яна выкарыстоўвала тэрмін „хвароба дыхальных шляхоў”, магчыма, мела нейкае дачыненне да ўспышкі ВРВІ (SARS — вострага рэспіраторнага сіндрому) у пачатку 2000-х. У кнізе таксама згадваецца вірус ВРВІ. Хоць можна меркаваць, што сцвярджэнне, што рэспіраторнае захворванне будзе распаўсюджана па ўсім свеце ў 2020 годзе, іншыя элементы хваробы з кнігі невядомыя альбо малаверагодныя. Вядома, прагназаванне ўспышкі захворвання дыхальных шляхоў ва ўсім свеце, калі гэта здарыцца, можа быць больш здагадкай, чым прагназаваннем.

Кніга Сільвіі Браўн — не адзінае ў мінулым прароцтва пра каранавірус.

Аўтары **старажытнага календара** прадказвалі пандэмію! Больш за 2000 гадоў таму турэцкія плямёны з Сярэдняй Азіі склалі каляндар з 12 жывёламі. Пасля ўспышкі пандэміі каранавіруса з'явілася тэорыя, што яе аўтары змаглі прадказаць шэраг трагедый з 2020 года.

Згодна з высновамі партала «Аваль», каляндар быў створаны ў 209 годзе да н.э. Ёсць там 12 розных жывёл — у тым ліку карова, тыгр, курыца ці сабака — якія ўяўляюць сабой год. 2020 год — пад заступніцтвам пацука. Ажуджан Цюрк (O—Ruzhan Türk) — вучоны, які праводзіць даследаванні ў правінцыі Эрзурум на ўсходзе Турцыі, сказаў, што многія падзеі, якія адбыліся ў 2020 годзе, прагназавалі аўтары гэтага календара. У якасці доказу сваіх слоў працытаваў ён змест прароцтва з календара. Па словах яго аўтараў, у «год пацука» шмат месцаў у свеце будзе знішчана дажджом і градам. Злачыннасць таксама павялічыцца ў першай палове года. У тэксце таксама згадваюцца пажары, землятрусы і саранча, ад якіх фактычна пацярпелі многія рэгіёны Аўстраліі, Турцыі, Афрыкі і Азіі. Даследчык сцвярджае, што ў календары згадваецца хвароба пад назвай «zatülcenb», што перакладаецца як «плеўрыт». Ён атаясамлівае яе з каранавірусам і сцвярджае, што інфікаваныя людзі адчуваюць такія сімптомы, як ліхаманка, дрыжыкі, кашаль, дыхальная недастатковасць і парушэнні сардэчнага рытму. Акрамя таго, аўтары прароцтва адзначылі, што сродкам супраць хваробы будзе высушаная кара расліны з сямейства лаўра. Навуковец падкрэсліў, што да адкрыццяў, якія змяшчаюцца ў календары, трэба падыходзіць з асцярогай. Ён рэкамендаваў чытачам разглядаць каляндар як гістарычнае сведчанне.

Астролагі ва ўсім свеце з вялікай заклапочанасцю чакаюць, ці здзейсніцца адно з самых страшных прадказанняў сусветна вядомага аўтара прароцтваў **Мішэля Настрадамуса.** Справа ў тым, што ў адным са сваіх чатырохрадкоўяў (цэнтрурыя 10, кварцін 74) прарок нібыта прадказваў пачатак маштабнага ўзброенага канфлікту падчас Алімпійскіх гульняў у пачатку XXI стагоддзя. СМІ праанізавалі сітуацыю падчас некалькіх папярэдніх Алімпіяд і не апублікавалі суцяшальных даных. Па даных расійскіх СМІ пачатак летняй Алімпіяды ў жніўні 2008 года ў Пекіне супаў з нападам Грузіі на Паўднёвую Асецію. Зімовыя гульні ў Сочы ў лютым 2014 года супадалі з пераваротам ва Украіне, дзе таксама была праліта кроў. Гэтыя збліжэнні ўмацоўваюць упэўненасць прыхільнікаў Настрадамуса адносна дакладнасці яго прароцтва. Дадатковым аргументам з'яўляецца ўзмацненне канфрантацыі паміж ЗША і КНДР.

Амерыканскі пісьменнік пісаў пра **вірус «Ухань 400»** амаль 40 гадоў таму, пра што ідзе ў кнізе **"Вочы цемры"** ад 1981 года? Ці Дзін Кунц (1945 г. нар.) прадказваў з'яўленне каранавіруса? Цяпер успамінаюць пра гэты твор, які ніколі не быў бестселерам, амаль чатыры дзесяцігоддзі пасля яго першага выдання. Дзін Кунц — гэта больш за сямідзесяцігадовы амерыканскі пісьменнік, які стварыў некалькі вельмі добра чытаных трылераў і жахаў, выдадзеных на сарака мовах, тыражом амаль 400 мільёнаў асобнікаў. Кунц апублікаваў раман пад псеўданімам Лі Ніколс (Leigh Nichols) і распавядае пра Ціну, сын якой загінуў у аварыі. Гераіня пасля года няшчаснай падзеі пачынае атрымліваць знакі, якія, здаецца, пераконваюць яе ў тым, што яе сын можа быць жывым. Сюжэт, нібыта схематычны, разгортваецца на аснове барацьбы Ціны Эванс і яе саюзнікаў, накіраванай на растлумачэнне сакрэту смерці яе дзіцяці. Ёсць там тэма пра даследаванні біялагічнай зброі, якія нечакана сталі ключавымі ў 2020 годзе. Вірус называецца «Ухань-400». Чаму Ухань так цікавіў пісьменніка сорак гадоў таму? Магчыма, з-за таго, што кітайскі горад з 11 мільёнамі жыхароў на працягу многіх гадоў быў цэнтрам развою з выкарыстаннем высокіх тэхналогій. У канцы 1950-х гадоў быў створаны тут Інстытут вірусалогіі Ухань, які праславіўся працай над вірусамі. Вестка пра вірус «Ухань-400» з кнігі Кунца хутка ўвайшла ў больш шырокую тэорыю змовы, якая грунтуецца на пераканані карыстальнікаў інтэрнэту, што вірус уцёк (наўмысна ці выпадкова) з лабараторыі. Вядома, такія тэорыі адрозніваюцца ў дэталях: для некаторых каментатараў гэта кітайская штучка, для іншых, наадварот — амерыканцы стварылі каранавірус. Аднак, разбіраючыся ў падрабязнасцях, заражэнне выдуманым вірусам значна адрозніваецца ад COVID-19. Кніжны вірус «Ухань-400» атакуе мозг і літаральна разбурае яго пры дапамозе смяротнага таксіну — ён таксама практычна на 100% смяротна небяспечны. Цікава, што ў першай версіі вірус таксама павінен быў называцца «Горкі-400» ад расійскага горада, у якім быў створаны. Невядома, чаму аўтар змяніў назву.

«Каб удакладніць гэта, — сказаў Домбі, — мы павінны вярнуцца на дваццаць месяцаў назад. Менавіта тады кітайскі даследчык Лі Чэнь уцёк у ЗША, узяўшы з сабой дыскету з данымі пра самую важную кітайскую біялагічную зброю апошніх дзесяці гадоў. Яны назвалі яе «Ухань-400» , таму што ён быў вынайдзены ў лабараторыі RDNA недалёка ад горада Ухань, і гэта быў чатырохсоты варыянт жыццяздольнага віруса, створаны ў іх даследчым цэнтры. Ухань-400 — выдатная біялагічная зброя».

Агата АРЛЯНСКАЯ

## Шудзялаўская гміна на дэмаграфічным мінусе

Наш чытач са Шчасновіч папрасіў, каб напісаць у „Ніве”, колькі жыхароў цяпер налічваюць вёскі ў ягонай Шудзялаўскай гміне. Інфармацыю прыслала мне Анна Нарбут, кіраўнічка шудзялаўскага ЗАГСа.

Зараз у Шудхялаўскай шміне пастаянна пражывае 2935 чалавек у 40 населеных пунктах. Найбольшыя вёскі гэта Шудзялава — тут пражывае 670 чалавек, Вярхлессе — 306, Мінкоўцы — 149, Воўнаўцы — 119, Паўночны Востраў — 113, Бабікі — 93, Гарчакі — 92, Слоя і Сухінічы — па 81, Мішкенікі-Вялікія — 78, Кнышэвічы — 75, Асравок — 71, Шчасновічы і Уснар-Гурны — па 70, Талькоўшчына — 69 і Новае Трасцяно — 65.

Да сярэдніх паселішч належаць Вялікая Зубжыца — 58 жыхароў, Малая Зубжыца — 56, Слойка — 48, Казловы Луг — 43, Піражкі — 42, Новінка, Пачапок, Сукавічы і Хмялеўшчына — усе па 35, Баратыншчына і Азярок — па 34, Гаркавічы — 27 і Грыбоўшчына — 25.

Малыя і маленькія населеныя пункты гэта Бярозавы Груд — тут пражывае 20 чалавек, Ліпавы Мост — 17, Сасноўка і Старое Трасцяно — па 15, Клін — 12, Маркавы Выган — 10, Падлазніска — 8 ды Равок і Сухі Луг — усяго па 2 жыхары. Чатыры гады таму ў паселішчы Сухі Груд жыў адзін чалавек, але памёр.

Варта дадаць, што ў Шудзялаўскай гміне ў 2004 годзе пражывала 3517 асоб, у 2012 годзе — 3217, у 2014 годзе — 3099 і ў 2016 годзе — 3108 чалавек.

(яц)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

# Хто цешыцца з навучання анлайн?

— Мне спадабалася дыстанцыйнае навучанне, — прызнаецца Бася, — і думаю, што буду сумаваць па такіх уроках, калі ўсё ўжо вернецца да нармальнасці.

Бася — не выключэнне! Шмат школьнікаў належным чынам аценіла хатнія абеды і магчымасць здрамнуцца паміж урокамі. А вось у карысць Басі прамаўляе нешта іншае і больш станоўчае.

— Дзякуючы ўрокам анлайн я буду мець лепшыя ацэнкі, чым у мінулым годзе, — кажа сямікласніца. — І гэта радасць для цэлай сям'і. Я нават пачала марыць пра больш прэстыжную сярэднюю школу!

Праўда, на лепшы вынік спрацавала дапамога маці, якая пільна сачыла за адукацыяй дачушкі. Бывала, сядзела з ёй за ўрокамі аж паўночы ды ноччу праз сваю э-пошту адпраўляла рашэнні настаўнікам.

Наша размова адбылася яшчэ да таго, калі Мікалай Паўляк, абаронца правоў дзяцей (Rzecznik Praw Dziecka) з нагоды Міжнароднага свята дзяцей прапанаваў змены. Ён звярнуўся да настаўнікаў і педагагічных рад, каб тыя, ацэньваючы вучняў, узялі папраўку на нявыгады і складанасці дыстанцыйнага навучання і павысілі вучням



Госці з Берасця

ацэнкі на адзін бал ад тых, якія яны атрымалі па тэстах, праверачных працах ці адзінкавых ацэнках.

Абаронца правоў дзяцей пажадаў добрага адпачынку ў час канікулаў, пасля якіх дзеці з ахвотай вернуцца ў школу.

Найбольшы падарунак прыпаў аднак для аматараў прагулаў (анлайн) і лінагузаў. Вось спадар Паўляк заявіў, што ўсе вучні, якім пагражала застацца на другі год у тым самым класе, былі падключаны пад свайго роду амністыю і перайшлі ў наступны клас. Такое рашэнне павінна больш матываваць да навукі ў наступным навучальным годзе.

Дзякуючы апошняй прапанове скарыстала б таксама Бася. Наша сяброўка яшчэ павысіла б сярэднюю ацэнак на пасведчанні. Праўда, яна пакуль не верыць, што атрымае пасведчанне з чырвонай палоскай.

— Такога яшчэ не было! — смяецца дзяўчынка.

Для нашых чытачоў таксама маем прыемную вестку. Настаўнікі беларускай мовы, з якімі мы абмеркавалі пытанне, заявілі, што паставяць пазітыўныя, а нават лепшыя чым звычайна ацэнкі. Праўда, усё гэта трэба будзе адпрацаваць. Падобная практыка «амністыі» і прамоцыі шырока распаўсюджана ў свеце. У Канадзе ўжо ў сакавіку адтэрмінавалі ўрокі ажно да верасня. Праўда, у час самаізаляцыі вядзецца дыстанцыйнае навучанне, яно аднак толькі для добраахвотнікаў.

— Такая мадэль прынята з-за клопату пра здароўе і настрой дзяцей, — патлумачыла нам знаёмая настаўніца. — Дзякуючы ясным правілам, дзеці адчуваюць, што ўсё знаходзіцца пад кантролем і што іх ізаляванасць і пакуты прынясуць станоўчы вынік. Але ж і спадабалася такая навука многім!

гак

# Вясновы суп з Зэльвы

У падзяцы за дапамогу ў школьных задачах Бася, гераіня артыкула «Хто цешыцца з навучання анлайн?» два-тры разы ў тыдзень гатуе маме страву-сюрпрыз. Апошнім часам яна спякла шакаладна-крэмавы пірог «Кратавінне» (Kopiec kreta) і згатавала вясновы суп са шчаўя. Пра прысмак і характар супу вырашыла дзікае шчаўе, якое Бася сабрала на лугу, аддаленым ад дарог і прамысловых асяродкаў.

Сёння прапануем вам зэльвенска-беларускі варыянт супу-шчаўя, паводле «Беларускай кухні» Юрыя Качука.

**Складнікі:**
*500 грам мяса,*
*400 грам шчаўя,*
*1 цыбуліна.*
*3 яйкі.*

Зварыць мясны прыварак. Цыбулю ачысціць, нарэзаць дробнымі кубікамі і злёгку падсмажыць на тлушчы, знятым з прыварку. Шчаўе перабраць, прамыць, нашаткаваць, пакласці ў рондаль, падліць трохі вады і на 10 хвілін паставіць пад накрыўкай тушыць. Пасля гэтага шчаўе змяшаць з падсмажанай цыбуляй, заліць мясным прываркам, дадаць солі, размяшаць і варыць 15-20 хвілін.



Пры падачы на стол у талерку з супам пакласці мяса, смятану і кавалачкі зваранага ўкрутую яйка.

Смачна есці!

**(гак)**

# УВАГА КОНКУРС! № 23-20

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 14 чэрвеня г.г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Два канцы,**
**два кальцы,**
**А пасярэдзіне гвоздзік-жывіца,**
**Хто не адгадае,**
**Той не будзе жаніцца.**
**Н......**
**(з народнага)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 19-2020: ландыш. Узнагароду, «Беларускую маляванку для дзяцей і дарослых» (з прыгожымі малюнкамі ды цудоўнымі вершамі) выйграла Зося Максімюк. Віншуем!**



Міра ЛУКША

## Ірыс з Беласточка

На Беласточку
ў пані Надзі ў агародчыку
ўжо да лета
цвіце многа кветак.
Але ўжо і ў маі
суседзі іх здымаюць,
у захапленні ад іх красы
ля плоціка спыніўся й ты.
Я ўкленчыла перад ірысам.
З кветкі зірнула лыса:
мне ў вочы ён заглядае,
дапытліва ў душу нырае,
і спасярод сініх шчок
салопіць да мяне язычок!
Жывыя вясёлыя кветкі
растуць на нашых палетках!
Прысядзь перад імі, схіліся,
бы пчолка ў пялёсткі ўтуліся,
і цвет табе ў вочы загляне,
ніколі ў забыцці не завяне.

# Рамантычная маляванка!

Два тыдні таму мы пісалі пра школьныя экскурсіі і паездкі, якія з-за эпідэміі каранавіруса не могуць адбыцца. Каб пацешыць вас у гэты складаны час, прапануем «турыстычную маляванку».

У час далёкіх і блізкіх экскурсій настаўнікі заўсёды прапануюць наведаць хоць адзін касцёл ці царкву. Чаму гэта істотная кропка падарожжа?

Сакральныя будоўлі — гэта не толькі жывая гісторыя духовай культуры жыхароў горада ці вёскі. З імі часта звязаны каларытныя легенды. Як наша прапанова — касцёл у мястэчку Відзы, што на поўначы Беларусі ў Віцебскай вобласці. Тут пабывалі вядомыя ўсім Адам Міцкевіч і яго муза Марыля Верашчака. Магчыма, уражлівы наведвальнік адчуе прысутнасць гэтай цудоўнай пары, дзякуючы якой узніклі самыя прыгожыя старонкі рамантычнай літаратуры, важнай не толькі для палякаў і беларусаў але і ўсіх славянскіх народаў.

На касцёл можна глядзець як на вытанчаны прыклад неагатычнай архітэктуры, а размалёўка ўсвядоміць вам дэталі, якія цяжка прыкмеціць з першага погляду.

Тады, даражэнькія, бярыце ў рукі каляровыя алоўкі і «падарожнічайце» па свеце радзімага мастацтва і літаратуры!

**Зорка**




# Міфы
## старажытных беларусаў

**ВЯСЁЛКА** — нашы продкі верылі, што Бог стварыў вясёлку, каб прадухіліць патопы на зямлі, бо яна добра ведала меру вады для дажджу, а лішнюю вяртала на неба. Людзі думалі, што адзін канец вясёлкі апускаецца ў мора або ў раку, каб адтуль смактаць ваду з усім, што ў ёй жыве. Калі хмурылася, дык лічылі, што дождж не пойдзе, пакуль вясёлка не накачае сабе вады, а пасля буры тая вада мела патрапіць у хмару, цераз якую як праз сіта прасейвалася і капала дажджом на зямлю.

Нашы продкі захапляліся прыгожасцю вясёлкі, але адначасна баяліся яе. Верылі, што яна можа ўсмактаць чалавека ўсярэдзіну, а потым закінуць на хмару. Таму, калі на небе з'яўлялася вясёлка, матулі забаранялі гуляць дзецям на двары і бегаць па вадзе. Забаранялася таксама паказваць пальцам на каляровы паветраны лук. На вясёлку можна было глядзець толькі з акна.

Па асаблівасцях выгляду вясёлкі і як яна ўзнікала прадказвалі надвор'е і поспехі ў жыцці і гаспадарцы. Калі ў час дажджу вясёлка была цьмяная, то чакалі, што дождж будзе ісці далей. Калі восенню вясёлка была накіраваная з поўначы на поўдзень — будзе дождж, з усходу на захад — добрае надвор'е. Не надта цешыліся з яркай вясёлкі. Гэта абазначала непагадзь. Таксама высокая і стромкая — прадказвала моцны вецер, а ранішняя пакатая — дажджлівы дзень.

На Падляшшы, калі бачылі на небе вясёлку, згадвалі жаданне. Верылі, што калі незамужняя дзяўчына ўбачыць адразу дзве вясёлкі, яна хутка выйдзе замуж.

Калі ў сям'і моцна жадалі нажыць шмат дзяцей, тады бацька і маці выходзілі ў час дажджу з вясёлкай на двор і, трымаючыся за рукі, моклі ў густым, цёплым ліўні.

*(Адрэзак адрэдагаваны паводле «Міфалогіі для дзяцей» А. Коршак)* **(гак)**

# Польска-беларуская крыжаванка
## № 23-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў «Зорку». Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 19-2020:

Брута, аўто, аўтар, Ака, том, знак, сноб, на, парус, крыж, аса, рак, монстр. Як, спор, на, аўторак, там, сам, бор, закон, улан, кары, абак, жар.

Узнагароды, **запісныя кніжкі,** выйгралі **Марцэль Салаўянюк** і **Марыся Раецкая**. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Talia | | | | | Blask | | Krupnik | Oslo | |
| Emotikon | | Ada / Dobro | | | | | | Jawa / To | |
| | | | | Kromka / Cielę | | | | | |
| Żaba / Ił | | Ciepło | Wół | | | | | | Klepisko |
| | | Wiosna | | | | | | | |
| Igły | | | | | | | | | |
| Kola | | | | | Krzyk | | | | |

**Сымон РАМАНЧУК** нарадзіўся ў вёсцы Гушчэвіна Нараўчанскай гміны ў 1936 годзе. У Беларускім дзяржаўным універсітэце ў Мінску прысвоіў ён дасканала беларускую, рускую і лацінскую мовы, якія потым выкладаў у Агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове. Як член Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" апублікаваў ён у „Ніве" ў шасцідзятыя гады шэраг апавяданняў, м.інш. „Дзядуля", „Чалавек", „Ідуць дні, дзянёчкі". Неўзабаве Сымон Раманчук заняўся вывучэннем праваслаўнага багаслоўя ў Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве, дзе абараніў доктарскую дысертацыю, затым прыняў манаскі пострыг і быў рукапаложаны ў святарскі сан. Стаў ён архіепіскапам Лодзінска-Познаньскай епархіі. Памёр 28 чэрвеня 2017 года, на 81 годзе жыцця.

— Я вельмі любіў чытаць. Будучы маладым хлопцам, чытаў я дома нават пры запаленай лучыне, а пасля ўжо пры газавай лямпе. Вельмі многа чытаў падчас вучобы ў Мінску, а пасля пачаў таксама пісаць.

У «Ніве» ў апошнія гады жыцця друкаваў свае апавяданні пад псеўданімам складзеным з імён сваіх бацькоў Марыя Сашка. Апавяданне «Чарадзеі» з'яўляецца ягоным апошнім літаратурным тэкстам. Рукапіс твора прыслаў ён у рэдакцыю «Нівы» ў маі 2017 года.

Сымон РАМАНЧУК

# Чарадзеі (ч. 1)

*„I nam coś z tego opowiedz, a zacznij skąd chcesz, boska córo Zeusa" — HOMER*

Базары... У нас іх, у горадзе, велічэзных — чатыры. Малых — не злічыць. Цікавыя яны, гэтыя ўстановы, таргі магутныя. Што хочаш там купіш. Каго хочаш — і не хочаш — пабачыш, спаткаеш...

Іаланта добра пра сябе ведала, што ў пошуках сваіх сардэчных «прыліваў» яна можа раптоўна, нечакана і для сябе самой, зрабіць нават найбольшую дурноту.

Дзяўчына з трэцяга паверха дома, што ў нас ён на Вярбовай вуліцы, дзень у дзень расказвае сваім сяброўкам-студэнткам медыцыны — пра сваё, «ад вякоў» — як сама кажа, вандраванне (частае-густое да базарных купцоў-маладцоў, каб хоць надзівіцца-напрыглядацца-насмакавацца іх хлапцоўска-мужчынскай прыгажосцю. Яе там, асоба на Балутах, «сартоў» дзясяткі-сотні, як і — наўкругі — усякіх тавараў, прылад — польскіх, рускіх, караімскіх, беларускіх, кітайска-азіяцка-індыйскіх, турэцкіх, парыжскіх нават... Рака цэлая, Вісла шырокая... Акіян велічны, марскі, магутны... Мурашнік сусветны...

Уся гэта кампанія-камітыва расселася, расклалася на шырокіх (і вузкіх) арэалах, адна ад другой прыгажэйшая. Прадаўцы і тавары. Мужы-таргаўцы — народ часта вусаты, бывае — і нярэдка — барадаты (з невялікасцю гэткай чаруючай); чорныя і бландзіністыя, смуглявыя, шакаладныя, малочна-белыя, зубасхалы гэтыя цудоўныя!.. Есці бы іх! Хрумстаць па кусочках! З касцьмі-жылкамі-храсточкамі! Ламаць па часцінках, як смакавіты батончык-пралінку!.. Аблізвацца — ды і іх аблізваць, што такое можа быць наяву!.. А так хочацца!.. Аж млейка!..

Падыдзеш да іх; крокаў пяць зробіш, да гэтых гарадскіх «салаўёў-жаваранкаў», нашых — значыць, і чужых-прыезджых, з краёў не заўсёды найбліжэйшых, і — хаця табе сёння нічога не трэба — ты купіш маласць хаця б нейкую, бо тут не зможаш гэтак проста, «у пустую» прайсці побач белазубых «арцістаў», калі на цябе глядзяць чорныя бародкі «шакаладным» вокам, бо і ты час — другому, трэцяму, ой — больш, больш, падружанька! Ой — і дзясятаму сказаць будзе не грэх! — у сінія іх вочы-азёры ўп'ешся, да губ малінавых, напухшых (у мыслях-жаданнях) прысмокчашся!..

Ну, бо скажы хатка праўду: хто цябе, вось зараз, адзінокую, як шыпуль-свечку, студэнтку, такой цеплынёй абдарыць, усмешкай узнагародзіць, смутак твой дзявочы развее?.. Гэтак проста, ні за што, «бясплатна»?.. Бо, падумай, што яму тут чужому красуну?.. Які яму ад гэтага ўсяго тарговы прыбытак?.. Глянеш, і бачыш — яны радасць людзям, для чужых і незнаёмых, проста, спантанна д-а-р-а-ц-ь, даюць, рассыпаюць!..

Ідзеш ты вось, стройная, з нагамі-хадулямі, «ад вушэй», плечыкам то адным — то другім паводзіш, нешта пад носікам сваім «мелодзіш»; вочка, часам, «пускаеш» раз направа — два налева, а за табой — прад табой, адсюль-адтуль, нясецца:

— Паненачка? Вы тыя будзеце ў нашым метраполісе? Стакротачка-лілеечка, га?.. Гляньце хоць на мяне ласкавенька, калі купіць сёння нічога не купляеце, га? Чуеце?.. Ружачка пахучая? Усміхніцеся, во-во... так! Мо дзе спаткаемся? Панюся добрая? Куды да вас прыйсці?.. Прыбягу!..

* * *

Наступны (колькі тут такіх? І дзе яны, адкуль, бяруцца-родзяцца-вырастаюць, на якім хлебе кормяцца? Рукі-ногі — ды самі яны — з два метры!) вершам вас адарыць!:

— Панюсенька, зорачка, паслухайце трубадура, да вас я! — дальбог — я НЕ жанаты! Злітуйцеся, каралева, яблычак чырвона-залацісты вазьміце! Проста так — пакусайце!, „smacznego"... Мне то — шкада? Папрабуйце вітамінку да заспявайце са мною: „Czerwone jabłuszko — rozkrojone na krzyż, czemu ty, dziewczyno, krzywo na mnie patrzysz?"... Вас — напэўна Евай завуць, бо як інакш — калі вы з раю?!. Пані — вазьміце мяне за Адама!.. Не падыходжу вам да гэтага Эдэма?. Ну, тады — хай з вамі будзе іншы Адам, Міцкевіч!..

— „Wilija gardzi doliny kwiatami, to szuka Niemna, swego ulubieńca: Litwince nudno między Litwinami, to ukochała obcego młodzieńca. Niemen w gwałtowne pochwyci ramiona, niesie na skały i dzikie przestworza, tuli kochankę do zimnego łona i giną razem w głębokościach morza!.."

— Вы бывалі там, пані? На Усходзе?! „Gdzie bursztynowy świerzop, gryka jak śnieg biała, gdzie panieńskim rumieńcem dzięcielina pała, a wszystko przepasane jakby wstęgą, miedzą zieloną, na niej z rzadka ciche grusze siedzą!.." Паненачка мілая, Казік — завуць мяне! А вас — як?.. Во, усміхнулася! І свет наўкругі павесялеў!..

* * *

Іаланта пацыпала ўперад, падалася ў павільёны, паправіла сваю шапачку, аблізала губы, калі перад ёю вырас наступны аратар, цяпер бландзін, з шыкоўным чубам:

— От, думаеце, дзяўчына, што я брахун базарны, просты?.. Кветачка вы мая — сама аблізала губкі, а як бы я?.. Скажыце: дзе ў «Мануфактуры» спаткацца можам? Ля фантанаў? Згадзіцеся — не пашкадуеце! Пані — як я цалую! Ды як кахаю! Зоркі на нас з неба пасыплюцца, залацістыя!.. Ей-бо!.. Сонейка вы маё, га? Згадзіцеся! Я такое ў каханні ведаю, усю вас абцалую-абыму, усюды-ўсюданькі, высока і нізенька, і тут, і там, што абамлееце!... Што мёд — не мёд будзе! Шакалад — не какао, цымус адзін стане, з марцыпанам-рахатлукам!.. Не-не, дальбог, не хуліган я, пансюся-золатка, я проста — рамантык, спраўдзьце! З тысячы і адной ночы арабскай! Шкадаваць не трэба будзе, пані!..

* * *

Там, збоку трошкі, заселі армянкі і ўкраінкі, тавар расклалі — таргуюць, «у палячкі» наровяць сваёй плывучай, спеўнай, усходняй мовай, рагочуць-зайздросцяць:

— Ды нам бы хоць адзін польскі балбесчараўнік папаўся, які б слаўцо салодкае, паэму сваю скіраваў-праспяваў!..

Чорна-белыя гэты жонкі-дзяўчаты, прыгожыя чужаземкі заглядваюцца на аўсяныя чупрыны лодзінскіх хлопцаў, мужыкоў... Добра б у Польшчы назаўсім астацца, з якім тут-небудзь смехуном бялесым, што бліскучымі бела-мучнымі парцаляна-фарфоравымі зубамі свеціць!..

Адзін з польскіх моладцаў адказвае, лебедзь-белы:

— Ды я б да вас і прытуліўся, кіеўлянкі-эрэванкі, з ахвотай прагнай, нагрэўся б каля вашых «цыцатых печак», ды тут, каля вас — вашы казакі ды джыгіты зранку зубамі скрыгочуць!.. Бачыце?.. Нашых польскіх цыганоў — што каля парфумы і фіранак «танцуюць» — на падмогу завуць-клічуць!.. Бяды не абярэшся!... Як жа мне тут вашага «малачка груднога» папрабаваць? Яны ўжо свае кінжалы вострацць! Кірдык тут мне можа быць адмысловы!.. Во, ваш Вартэкс і Саркіс зоўсім захмурэлі-насупіліся!.. А Пэтро ды Стэпан з Мыколаю — што з-над Дняпра — ужо пад носам сваё «бласлаўленне» гатовяць, чырвоныя свае шаравары надзяваюць, кулакі сціскаюць-гатовяць, гайдамакі!.. Вы, бабанькі-дзеванькі, што — з другой планеты?.. Цяпер няма: «пралетарыі ўсіх краін — яднайцеся!» Цяпер бедакі — ні пра які інтэрнацыянал! — цяпер кожны адно — пра грошы, свае грошы!.. А другі — хоць задушыся, ты сам сабе пан-паніска-ўладар, і да мяне ў кішэнь не лезь! — наўкруг свой бізнес разварочвай, нам — што да цябе? Ну, хіба што, на нашу дзялянку ўлазіш!.. Тады пагоним! Ты нам і рукавіц не пара і не сват, патурым!.. Будзем з табой плакаць — і самі засмаркаемся дашчэнту!..

* * *

Кашуль тут колькі, рубашак!.. А сам «Кашульшчык» сказаў нядаўна, што ён з Віцебска!.. Ну, артыст ён, проста!.. Усё паэзіяй усіх «частуе»!..

Сёння Іаланта пачула: — «Што годна сапраўды: трымаць маўклівa пад лёсу звар'яцелага напады, ці стаўшы збройна супраць мора бед, гэтым самым іх пазбыцца?» Ён гэта сказаў Іаланце па-беларуску.

— А вы адкуль ведаеце, што я так гавару? — спытала яна. Ды ў вас такое на твары напісана! Давайце — угадаю: вы з Белавежы або з Гайнаўкі? Говар ваш польскі — салодкі і спеўна-пушчанскі! Там у мяне сваякі жывуць! І вы ведаеце, што я вам Гамлета чытаў!.. Я з Нараўкі! — адклікнулася яна, па-свойму. — А мой дваюрадны брат у Гушчэвіні ажаніўся, адтуль уладыка лодзінскі праваслаўны, Сіман-архіепіскап!.. О-о, а і вас я ў саборы бачыў, я ўспомніў!..

— To be or not to be!.. Я вам сёння новую праўду пра чалавека скажу, паслухайце!.. Дай, Госпадзі, здароўе гэтаму вялікаму беларускаму паэту!.. Хварэе ён, апошнім часам!.. Вы ж, напэўна, чулі пра Ніла Гілевіча, і песні яго знаеце, ось — хоць бы: «а я лягу, прылягу, ля гасцінца старога», так там спяваецца міла!.. Дай, Пане Божа, сіл яму, цудоўнаму гэтаму чалавеку! Яму цяпер канчаецца ў верасні 2016 восемдзесят пяць гадоў!.. Паэт пытае:

«Скажы, яснавідзец: ад д'ябла ўва мне больш, чым ад Бога?"

— Што больш, не скажу. Але ёсць. І на жаль, замнога.

А тое, што я за грахі сабе поедам ем несаблана?

— А гэта ад Бога. Але... да мяжы, за якою — ад д'ябла».

— To be or not to be!.. Вечнае! Супраціўнае!.. Як чалавек чалавеку!.. Homo homini lupus est!.. Чалавек чалавеку — воўк!.. Глянь, нават — не сабака!.. Воўк злюшчы!.. Раблю — што хачу, маё права, мая дэмакратыя!.. Усё дазволена!.. Але калі — усё дазволена — то няма і Бога!.. Ці ж гэта гаварыў толькі адзін Іван Карамазаў Дастаеўскага?.. Колькі цяпер у нашым свеце такіх Іванаў?.. Ой з Богам мацаваўся, а сённяшнія Іваны — не ідуць ні да Бога, ні да д'ябла!.. Яны т-а-к кажуць, гэтак ім так здаецца!.. Але яны, у цэласнасці, ужо даўно «ад д'ябла!». І ў гэтым іх цяпер уся і прыемнасць!..

Вы думаеце яны Біблію чытаюць, Евангелле?.. Яны нічога НЕ чытаюць апрача інтэрнэту!.. Дый там толькі «голыя малюнкі»!.. Ну, няхай бы! Глядзіш — глядзі, але падумай-скажы: якой красы поўны чалавек! Якая дзяўчына! Які хлопец! Чалавек жа — краса несусветная!.. Бо, глянь, якія ў яго — яе — від-вобраз-фасон, кшталт — як усе кажуць; рукі-ногі-грудзі-плечы-твар які!.. Ну, з алебастру ён — чалавечына!.. Даткнуцца хочаш, пагладзіць, цяпло пачуць, прытуліцца!.. І пасядзець побач! Гэтак — моўчкі сябры-друзі-людзі блізкія!.. Рукою да твару даторкнуцца! — лёганька-лёганька!!! Вочы пацалаваць!!! Вецярком пушыстым губ сваіх тыя губы адведаць!!! Валасы пагладзіць!.. І вам, абаім, захочацца быць бліэка-блізка!!! Каб цяпло стала!!! Цяпло недзе з таго свету!!! Паэзія!!!

І не будзе слоў: лягай, хутчэй, чаго цягнеш?.. Бо слоў ужо НЕ будзе!!! Бо вочы «дымам» зойдуць, і ты перанясешся-паляціш у нейкія далі дальнія, краіны «не-геаграфічныя», бо ц-і-ш паўсюды стане, заляжа наўкругі, безбярэжная, безмежная!.. Птахі нейкія над табою крыллем затрапечуцьзашумяць, соладка зачыркаюць, колеры перад табою-вамі рассыплюць, мяшком цэлым!!! І ты — НЕ спяшайся ў свет «свецкі» вяртацца! Наясіся ты яго яшчэ ўдоваль!.. Ты там пабудзь, у краіне сваёй асалоды, бо яна — толькі твая! Вясна непаўторная!.. Вясна твая, толькі твая краса!!!

Гэтак «распаясаўся» малады віцябшчанін, якога ўсе на базары называюць «Кашульшчыкам». Так прынялося... Яшчэ адзін шэкспіролаг-філолаг-філосаф, які не дастаў у сваім горадзе над Заходняй Дзвіной ніякай пасады, бо яго Гамлет і там цяпер непатрэбны. Ён выраішыў знайсці сваю Афелію ў польскай Лодзі. Ён не думаў тут с-я-б-е шукаць; абы дзе-небудзь зачапіцца — гэта і былі ўсе в-ы-ш-ы-н-і яго ў чужой краіне!.. Мову вывучыць трэба, бо колькі польскага было ў іх доме пасля дзеда і бабкі, з Пінска, пасля вайны?..

Было яму, пачаткова, нялёгка!.. Ён жа наўкругі — «рускі»! Што ў назве яго айчыны стаіць слова «Бела»?.. Бела-чорна-рыжы — малюй як хочаш! Ты і так — „stamtąd!", усе вы — „ruskie!". Армяне, грузіны, казахі, узбекі, азербайджанцы, яшчэ якія вы там ёсць?!. Wy wschodniacy — wszystkie ruskie!... І — як ім злаваць?.. — яны ж усе з Усходу!.. Ну, не б'юць ужо іх у нас тут, покатам, не ганяюць з базару, бяда ўсіх да сябе прыгарнула, гандаль-дабыча залатоўкі іх аб'яднаілі, таго-сяго нават зрадніілі!..

А гэты беларусік — чаго праўды не сказаць — хлопец... лялька! Хлопец-карта, хлопец — сорт-клас першы!.. Гэта яго — марка залатая, яго караты залатыя!.. Ну, і бабы тутэйшыя пераглядаюцца, шэпчуць (бо Зузя сказала), што ён і ў каханні — „maestro"! Ах, кабеткі — усюды яны кабеткі... Што і «мужчынскасці» ў яго — мабыць, з усяго Віцебска разам узятага!.. Бо ў Зузі ён менавіта кашулі прадае, таму і ён — «Кашульшчык»!.. Ніхто яго тут Арцёмкай і НЕ называе!.. Якая яму ад гэтага розніца? Ён — у Еўропе! Ёсць дзе — і да каго — галаву прыкланіць!.. Якая яму тут еўрапейская палітыка? — To be or not to be!..

А і пані Зузя — го-го-го! Маладая ж! А што не ўпоўнасці каралева прыгажосці? Чаго хочаце — яна «ў сябе»! Цыцы як капіцы, і лытка — не брыдка, патрымацца можна, ёсць за што!.. А сама Зузя — такі «еўрасаюз» Арцёмку «паказвае», што хлопец забывае і пра Гамлета, і пра Віцебск!.. Што ўніверсітэт скончыў, а Зузя не? Ёсць ёй кім прад людзьмі пахваліцца!.. Яна і ўсюды хваліцца і пучыцца! Каб зайздросцілі! Бо каторая з падружак — на чалавека патрапіла?!.

І Зузя шчаслівая, што свайго былога абармота, што кожны дзень п'яны на Драўноўскай вуліцы, пад могілкамі, валяўся... Яна цяпер Богу надзякавацца не можа за свайго „Wschodniaczka" а і „Białorusek" тожа радасны!.. Папала адно на другое! Што тут дыпломы! Разам бегаюць у тэатр, у оперу, кожную пятніцу ў філармонію!.. Шчаслівыя!!! Бо колькі чалавечыне шчасця трэба?!. Вагай яго — не зважыш, мятроўкай НЕ змерыш!..

To be or not to be: that is the question!.. Пытанне: быць альбо не быць!.. Ці — як быць?!.

«Пытанне: быць альбо не быць? Што лепей, што разумней: альбо цярпець удары, каменне, стрэлы яраснага лёсу, альбо ўзброіца на мора крыўд і знішчыць іх змаганнем. Смерць і сон — адно і тое ж... Смерць — сон, заснуць, заснуць і марыць!..»

Гэтак у Шэкспіра... Бывай, Гамлет, у сваёй Даніі!.. Арцёмка застаецца ў Польшчы, не паедзе ён да цябе!.. Бо, папраўдзе, што ў цябе ёсць — засталося?!. Арцёмкава каралеўства ў цэнтры Польшчы, у Лодзі!.. Тут і яго каралева — Зузя — Афелія!..

*(працяг будзе)*

Міхал МІНЦЭВІЧ

# У арлянскай школе пры санацыі

Кожны з нас, грамадзян дзяржавы, хацеў бы быць заможным, шанаваным і роўна трактаваным — гарантуе нам гэта канстытуцыя. Таксама грамадзянам Польшчы беларускай нацыянальнасці. Мы, як людзі, пагоджаныя з тым, што не ўсе нас любяць, нават таго не чакаем. Але заўсёды было і ёсць цяжка гадзіцца са спіханнем нас у другую катэгорыю. Гісторыя паказвае, што з гэтым у розны час было па-рознаму. Гэта нас гартуе, але і абавязвае гаварыць пра гэта як пра нешта нягоднае.



II клас Агульнай школы ў Орлі — жыды і хрысціяне. Першы рад (злева направа): NN, Анджэй Ляшэвіч, Янкель Цешлер. Другі рад (злева направа): Тацццяна Агіевіч, Марыя Мартыновіч, Валя Качан, Анна Кубаеўская, Марыя Федаровіч, Сара Сэрлін, Муся Шварц, Людміла Качынска, Валя Мартыновіч, Ніна Назарэвіч, Сара Альшаніцка. Трэці рад (злева направа): NN, NN, Ян Гонта, Люба Багацэвіч, Ніна Галоўня, Анна Гарлоўска, Мікалай Рыбачук, Базыль Орда. IV рад (злева направа): NN, Эльяш Сакалоўскі, Эльяш Ляшэвіч, Барыс Багацэвіч, Валенты Ляшэвіч, Аляксандр Кузьмін. Дарослыя: сядзяць, злева Тадэвуш Врублеўскі — кіраўнік школы і справа Тадэвуш Бялецкі

Фота з фонду Людмілы Ёдлы

Паводле расказаў старажылаў, у міжваенны перыяд пры працаўладкаванні дыскрымінаваліся грамадзяне Рэчы Паспалітай праваслаўнага і іудзейскага веравызнанняў. У той час амаль нікога з іх не прымалі на працу ні ў школу, ні ў гміну, ні ў паліцыю, у якую прымалі нават неадукаваных асоб, але выключна католікаў. У Орлі здарылася выключэнне — у школе вучыў Базыль Лашкевіч, які паходзіў з-па-за Орлі; мабыць з Пружан. Войт, гмінны сакратар і паліцыянты (у арлянскім пастарунку было трох паліцыянтаў з Орлі, але католікаў) ды настаўнікі прыехалі ў Орлю з цэнтральных рэгіёнаў Польшчы. Орля з самага свайго пачатку была заўсёды шматканфесійная, шматнацыянальная.

Дзякуючы захаванай — прысабечанай і з цяжкасцямі вернутай арлянскай школе — архіўнай „Księdze ocen sprawowania się i postępów w nauce uczniów w roku szkolnym 1934/35" і яе аналізу, можам даведацца і пераканацца, што ў санацыйнай школе на Падляшшы некаторыя настаўнікі выразна прымянялі палітыку асобнага — горшага — трактавання вучняў праваслаўнага і іудзейскага веравызнанняў. Найцяжэй было наймалодшым вучням. Задаволены быў настаўнік, які лічыў сябе святасцю і не браў пад увагу мясцовых рэаліяў. Санацыйная школа была рэстрыкцыйная і неаб'ектыўная.

У лістападзе 1918 года пасля 123 гадоў няволі Польшча вярнула незалежнасць. У той час Польшчы не было на картах, не было польскіх школ, не было навучання польскай мове. Па сутнасці польская мова не ўжывалася ў Орлі. Праваслаўныя жыхары ад пакаленняў карысталіся выключна „тутэйшай" мовай — мясцовай беларускай гаворкай. Жыды між сабою размаўлялі па-жыдоўску, жыдоўскія дзеці навучаліся ў рэлігійнай жыдоўскай школе.

З польскай мовай наймалодшыя праваслаўныя і іудзейскія дзеці сустрэліся ўпершыню толькі з прыходам у школу. І ці не школа менавіта мела іх навучыць польскай мове? Якое было навучанне, такі быў і яго вынік. А калі вынік навучання не задавальняў настаўніцкіх спадзяванняў, то такое было і тое навучанне. У „Księdze ocen..." бачым, што гэтым наймалодшым дзецям настаўнікі часта пісалі ў заўвагах пра цалкавітае няведанне польскай мовы. Вучняў з мізэрнымі ацэнкамі, пераведзеных і непераведзеных у чарговыя класы, трактавалі як прыдуркаў. Адзін з настаўнікаў, Тадэвуш Бялецкі з задавальненнем запісваў увагі „Umysłowo mało rozwinięty", „Umysłowo niedorozwinięta" і г.д.

Настаўніца польскай мовы Галена Цежухова вучаніцы другога класа Сары, іудзейскага веравызнання, запісала нават ва ўвагах „Słabe posługiwanie się językiem polskim w domu". Гэта ж кур'ёзнае — бо з кім тое дзіця мела б размаўляць дома па-польску, калі сямейнікі размаўлялі паміж сабою па-жыдоўску? Гэтак жа і ў праваслаўных, якія размаўлялі дома выключна на мясцовай гаворцы. Толькі пасля 65 гадоў, у пачатку XXI стагоддзя мясцовая беларуская гаворка стала сярод наймалодшых выходзіць з ужытку.

Str. 97

Rok szkolny 1934/35 Oddział III a

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Nr. p. Nazwisko i imię ucznia | 31 [illegible] Tekla | | | | | | 32 Bor[illegible] Joanna | | | |
| 2 | Imię ojca i matki | Wacław | | | | | | Jotha [illegible] | | | |
| 3 | Data (dzień, miesiąc i rok) i miejsce (miejscowość i powiat) urodzenia | 20. V. 1925 [illegible] | | | | | | 15. VII. 1926 Orla na Podlasiu | | | |
| 4 | Wyznanie | [illegible] | | | | | | mojż. | | | |
| 5 | W którym roku szkolnym wstąpił do szkoły i do którego oddziału | 1932/33 1 | | | | | | 1932/33 1 | | | |
| 6 | Nazwa szkoły i oddział, do którego uczeń uczęszczał przed wstąpieniem do tej szkoły | | | | | | | | | | |
| 7 | Który rok jest w danym oddziale | 1 | | | | | | 1 | | | |
| 8 | Stopnie ustalone z końcem okresu | I | II | III | IV | | | I | II | III | IV |
| 9 | ze sprawowania się (zachowania się) | bdb | bdb | bdb | bardzo dobry | | | bdb | bdb | bdb | bardzo dobry |
| 10 | z nauki religji | bdb | bdb | bdb | bardzo dobry | | | — | — | — | — |
| 11 | z nauki języka polskiego | bdb | bdb | bdb | bardzo dobry | | | dst | dst | ndst | niedostateczny |
| 12 | z nauki języka | — | | | | | | — | — | | |
| 13 | z nauki rachunków z geometrją | bdb | db | db | dobry | | | ndst | dst | ndst | niedostateczny |
| 14 | z nauki przyrody | db | db | bdb | bardzo dobry | | | dst | dst | dst | dostateczny |
| 15 | z nauki geografji | — | — | — | — | | | — | — | — | — |
| 16 | z nauki historji | — | — | — | — | | | — | — | — | — |
| 17 | z nauki rysunku | dst | db | db | bardzo dobry | | | ndst | dst | dst | dostateczny |
| 18 | z nauki robót ręcznych (zajęć praktycznych) | db | db | db | dobry | | | dst | dst | db | niedostateczny |
| 19 | z nauki śpiewu | db | dst | dst | [illegible] | | | dst | dst | dst | dostateczny |
| 20 | z ćwiczeń cielesnych | db | bdb | bdb | bardzo dobry | | | dst | dst | dst | dostateczny |
| 21 | z | | | | | | | | | | |
| 22 | Liczba dni opuszczonych w okresie ogółem | — | 2 | 10 | 8 | 2 | 18 | 20 | 7 | 14 | 8 | 27 | 22 |
| 23 | nieusprawiedliwionych | | | | | | | | | | |
| 24 | Liczba spóźnień | | | | | | | | | | |
| 25 | Wynik ogólny | bardzo dobry | | | | | | niedostateczny | | | |
| 26 | Decyzja Rady Pedagogicznej w końcu roku szkolnego i w razie niepromowania jej uzasadnienie | promowana | | | | | | pozostawiony na rok drugi | | | |
| 27 | [illegible] | [illegible] | | | | | | [illegible] | | | |
| | Motywy ocen niedostatecznych i uwagi | | | | | | | | | | |

Як успамінаюць старэйшыя людзі, у пасляваенных гадах у арлянскай школе вялося двайное навучанне — у г.зв. „польскіх" класах усе прадметы навучалі па-польску, а ў „беларускіх" класах на беларускай мове.

12 лютага 2009 года арлянскія гмінныя радныя (у іх ліку і аўтар гэтых радкоў) прынялі пастанову пра ўвядзенне дапаможнай беларускай мовы. 30 верасня 2009 года радныя прынялі рашэнне пра ўсталяванне дадатковых назваў мясцовасцей на мове беларускай нацыянальнай меншасці.

У „Księdze ocen..." маем прыклады таго, што да вучняў каталіцкага веравызнання (якія прыбылі з бацькамі з-па-за Орлі), якіх у школе было менш, настаўнікі ставіліся больш прыхільна. „Księga ocen..." паказвае прыклады маніпуляцыі — перараблівання ўжо запісаных ацэнак на лепшыя. Зусім наадварот ставіліся настаўнікі да некаторых праваслаўных вучняў; у „Księdze ocen..." маем прыклады перакрэслівання запісаных ужо выдатных ацэнак і падмены іх горшымі.

„Motywy ocen niedostatecznych i uwagi" запісваныя некаторымі настаўнікамі:

Клас IIa, класная апякунка Галена Цежухова;

Вучаніца Анна і вучань Анджэй, абое 1926 года нараджэння, праваслаўныя — „Wynik ogólny: niedostateczny [па польскай мове]. Pozostawiony na drugi rok. Brak przygotowania z języka polskiego".

Вучань Шэпсель, 1925 г., іудзей — „Dostateczny. Promowany. Brak zupełnego przygotowania i opanowania języka polskiego".

Вучань Дабіг, 1926 г., іудзей — „Niedostateczny. Pozostawiony na rok drugi. Brak przygotowania z arytmetyki i języka polskiego".

Клас IIб, класны апякун Тадэвуш Бялецкі;

Вучань Валенты, 1926 г., праваслаўны — „Dostateczny. Promowany. Chłopiec mało rozwinięty".

Анджэй, 1925 г., праваслаўны — „Niedostateczny. Niepromowany. Umysłowo mało rozwinięty".

Вера, 1926 г., праваслаўная — „Dostateczny. Promowana. Umysłowo mało rozwinięta".

Цыпрыян, 1923 г., праваслаўны — „Dziecko niedorozwinięte umysłowo i moralnie i z tego powodu usunięte ze szkoły z dn. 20.X.1934."

Вольга, 1923 г., праваслаўная — „Niedostateczny. Niepromowana. Umysłowo niedorozwinięta".

Клас IIIб, класная апякунка Анеля Мілерова;

чытайце ☞ 10

9 ☞ працяг

# У арлянскай школе пры санацыі

Мошка, 1924 г., іудзей — „Dostateczny. Promowany. Chłopak słabo rozwinięty, zdolności słabe, stan umysłowy mało rozwinięty, brak opanowania języka polskiego w mowie i w piśmie”.

Сара, 1925 г., іудзейка — „Dostateczny. Promowana. Słabe zdolności umysłowe, braki w opanowaniu języka polskiego w mowie i w piśmie. Słabe posługiwanie się językiem polskim w domu”.

Іцка, 1923 г., іудзей — „Dostateczny. Promowany. Brak opanowania języka polskiego w mowie, piśmie, słabe posługiwanie się tym językiem, brak wytrwałości i pilności”.

Сара, 1926 г., іудзейка — „Dostateczny. Promowana. Brak opanowania języka polskiego i w mowie i w piśmie”.

Іудзеі Шлёма, 1924 г, Мірця, 1925 г., Лейб, 1925 г. — „Dostateczny. Promowany. Brak opanowania języka polskiego i w mowie i w piśmie”.

Анджэй, 1925 г., праваслаўны — „Dostateczny. Promowany. Brak opanowania języka polskiego w mowie i piśmie”.

Валенты, 1924 г., праваслаўны — „Dostateczny. Promowany. Brak opanowania języka polskiego w mowie i piśmie. Dziecko fizycznie i umysłowo słabo rozwinięte”.

Праваслаўныя Міхал, 1924 г. і Міхал, 1925 г. — „Niedostateczny. Pozostaje na rok drugi. Brak opanowania języka polskiego w piśmie, w czytaniu i w mowie”.

Шыя, 1926 г., іудзей — „Niedostateczny. Pozostaje na rok drugi. Brak opanowania języka polskiego w mowie i piśmie...”

Праваслаўныя Вера, 1924 г. і Марыя, 1925 г. — „Dostateczny. Promowana. Brak opanowania języka polskiego w mowie i piśmie”.

Таццяна, 1923 г., праваслаўная — „Dostateczny. Promowana. Brak opanowania języka polskiego i w mowie i w piśmie” [ocena z języka polskiego — „dobry”].

Ёсэль, 1923 г., іудзей — „Dostateczny. Promowany. Brak przygotowania oraz opanowania materiału z języka polskiego, rachunków i przyrody”.

Клас IVа, класная апякунка Галена Цежухова;

Лейля, 1921 г., іудзейка — „Niedostateczny [język polski]. Pozostawiona na rok drugi. Brak przygotowania z języka polskiego. Słabo opanowana pisownia”.

Мае размоўцы часта падкрэслівалі, што жыды добра вучыліся, а паводле некаторых — не надта. Абедзве ацэнкі праўдзівыя. Захаваная архіўная „Księga ocen...” дакладна нам гэта паказвае.

Пайменны спісак г.зв. „найлепшых” вучняў у навучальным годзе 1934/35 у паасобных класах з пазначэннем веравызнання, якія кончылі навуку з выдатным вынікам таксама паказвае прыклады падробкі дакументаў класнымі апекунамі: падцягванне ацэнак каталіцкім вучням і паніжанне праваслаўным.

Выдатнікі, клас IIа: Федаровіч Аляксандра, 1926 г., праваслаўная і Калена Марыя, 1924 г., праваслаўная.

Выдатніца ў IIб класе: Сэрлін Сара, 1926 г., іудзейка.

Выдатнікі, клас IIIа: Пілецкі Леноер, 1925 г., іудзей і Шабэс Хаша, 1925 г., іудзейка. Класная апякунка Марыя Врублеўска падцягаючы дзве каталіцкія вучаніцы Галену і Альбіну паправіла па спеве ацэнкі з пасрэдных на добрыя, а агульны вынік „добры” падцягнула на „выдатны”.

Выдатнікі, клас IIIб: каталікі Гжыбэк Галена, 1925 г. і Врублеўска Данута, 1926 г. Жыдоўкі Бэймарош Злятка, 1926 г. і Шумахер Нома, 1925 год. Класная апякунка Анеля Мілерова праваслаўнай вучаніцы Таццяне без прычыны панізіла агульны вынік і дапісала заўвагу „Brak opanowania języka polskiego w mowie i piśmie”, хаця па польскай мове была ў яе ацэнка „dobry”.

Выдатнікі IVа класа: каталік Гжыбэк Эдмунд, 1924 г., праваслаўныя Катоўна Вера, 1924 г., Валасовіч Людміла, 1924 г. ды іудзеі Бушміц Голда, 1923 г., Лемэўска Фэйна, 1924 г. і Вольска Эма, 1923 г.

Выдатнікі V класа: жыдоўка Азор Малка, 1923 г. ды праваслаўныя Грайка Сцяпан, 1920 г. і Мароз Сяргей, 1921 г.

Выдатнікі VI класа: жыдоўка Клініцка Рыва, 1922 г. і праваслаўны Астапчук Канстанты, 1920 г. Агульны вынік „bardzo dobry” выстаўлены класным апекуном Уладыславам Акушкам мела таксама праваслаўная вучаніца Валасовіч Ірэна, 1923 г. Падмяняючы класнага апекуна Тадэвуш Врублеўскі выкрасліў слова „bardzo” з агульнай ацэнкі...

Выдатнікі VII класа: католік Тутка Юзаф, 1921 г. і іудзей Вернік Арон, 1919 г.

Падводзячы. У публічнай агульнай школе ў Орлі ў навучальным годзе 1934/35 было агулам 458 вучняў, у тым ліку 220 іудзейскага веравызнання. Было 24 выдатнікі, у тым ліку 11 іудзейскага веравызнання, 7 праваслаўных і 6 каталікаў. „Чацвёркавых” вучняў было 132, у тым ліку 66 праваслаўных, 60 іудзейскіх і 6 католікаў. Не пераведзена 60 вучняў.

Апрацаваў **Міхал МІНЦЭВІЧ**



1 ☞ працяг

# Крыначка

ніцтвы з Гайнаўкі ў Крыначку. Некаторыя асобы ахвяруюцца самастойна пяшком дабрацца ў святое месца. Вернікі едуць таксама на веласіпедах, але найбольш паломнікаў дабіраецца на сваіх аўтамабілях. Пасля багаслужбы ў Крыначцы, частка гайнавян запрашае сваякоў з навакольных мясцовасцей да сябе на абед, працягваючы такім чынам традыцыю абеду на пушчанскай паляне. Ужо каля дваццаці гадоў пасля абеду ладзіцца беларускі фэст «Крыначка» ў Гайнаўцы. Спачатку была ідэя ладзіць фэст у жылых кварталах горада і першыя беларускія фэсты Гайнаўскае аддзяленне БГКТ, якога дзейнасць узначальваў тады пакойны Міхал Голуб, з дапамогай Гайнаўскага дома культуры ладзіла беларускія фэсты ў жылым квартале Мазуры. Пазней, калі арганізатарамі беларускага фэсту «Крыначка» сталі Галоўнае праўленне БГКТ і ГДК, сталі ладзіць яго ў гарадскім амфітэатры і так было да мінулага года. Сёлета з-за эпідэміі каранавіруса фэст у гарадскім амфітэатры быў адменены.

У гэтым годзе пасля паслаблення санітарнага рэжыму Крыначку стала наведваць многа праваслаўных вернікаў з Гайнаўкі і наваколля, каб памаліцца ў святым месцы, набраць з даўняй крыніцы ваду і завезці яе дамоў. Некаторыя абмываліся вадой на месцы і ручнікі, якімі выціраліся, згодна традыцыі вешалі на сетцы. Другога дня Вялікадня, з якога можна ўжо было ўязджаць і ўваходзіць у лес дзеля рэкрэацыі, я таксама паехаў з сямейнікамі ў Крыначку. Вернікі і турысты зноў наведвалі Крыначку. На пад'язной дарозе трэба было абмінаць пешаходаў і веласіпедыстаў. Уязная брама ў Крыначку была закрыта, але адчыненая была фортачка, якой людзі ўваходзілі на акуратна прыбраную плошчу. Некаторыя асобы затрымліваліся каля царквы, маліліся, набіралі жыватворную ваду з калодзежа. Пяшком прыйшла сям'я з Гайнаўкі. Да іх прыехала бабуля з адлеглай мясцовасці ў Польшчы і калі паявілася магчымасць выходзіць на прагулку, унукі з дачкой сарганізавалі бабулі пешаходную прагулку праз Белавежскую пушчу і паказалі ёй Крыначку. Прыцаркоўная плошча ў Крыначцы з крыжамі — агароджаная дадаткова драўляным плотам і за яго паломнікі ўжо не заходзілі. Некаторыя адпачывалі на паляне з высачэзнымі дубамі. Рабілі там здымкі і сачылі за прыродай, якая ў веснавы, але яшчэ халаднаваты дзень будзілася да жыцця. Па дарозе з царквы да калодзежа ляжаць дрэвы, якія ў мінулым зваліліся на балацявіне і праляжалі там доўга, ажно зараслі імхом. На аўтастаянках і ў публічных месцах быў абавязак закрываць рот і нос маскамі і так многія рабілі. Па лесе можна было ўжо хадзіць і бегаць без масак і гэтым прывілеем масава пакарысталіся жыхары Гайнаўшчыны ў першы дзень паслаблення санітарнага рэжыму. Я яшчэ раз заязджаў у Крыначку і тады таксама спаткаў жыхароў Гайнаўшчыны. Самыя вялікія сёлетнія святкаванні адбудуцца ў Крыначцы на другі і трэці дзень Святой Тройцы, у бліжэйшы панядзелак і аўторак, 8 і 9 чэрвеня. Ужо ідзе падрыхтоўка да свята і традыцыяй стала, што ад Святой Тройцы па нядзелях служыліся ў царкве ў Крыначцы літургіі, а вечарам чыталіся акафісты. Так мае быць і ў гэтым годзе, хаця будзе гэта адбывацца ва ўмовах эпідэміі каранавіруса.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



ДАТА З КАЛЕНДАРА

# 195 гадоў з дня нараджэння Эдварда ПАЎЛОВІЧА

Мастак, асветнік, мемуарыст Эдвард Паўловіч нарадзіўся 7 чэрвеня 1825 г. у мястэчку Тургелі (цяпер Літва). Паходзіў з сям'і каморніка Францішка і Кунегунды Пагарэльскай. Дзяцінства правёў на Наваградчыне. Вучыўся пры базыльянскім кляштары ў Жыровічах, Слоніме, Слуцкай гімназіі, якую скончыў у 1836 годзе. Пасля пераехаў у Вільню, дзе як вольны слухач наведваў лекцыі ў Медыка-хірургічнай і Духоўнай акадэміях. Браў прыватныя ўрокі мастацтва ў Канута Русецкага і Караля Рыпінскага.

У 1849 г. пераехаў у Пецярбург, дзе паступіў у Акадэмію мастацтваў, якую скончыў у 1853 г. У час навучання рабіў копіі з палотнаў Эрмітажа. У 1853-1856 гг. падарожнічаў па Еўропе, наведаў Італію, Іспанію, Францыю, дзе таксама рабіў копіі, выконваючы просьбы землякоў-калекцыянераў. У Парыжы завязаў стасункі з мастакамі-эмігрантамі. Будучы ў Парыжы, пачаў друкаваць свае творы. У 1857 г. выйшла кніга пад назвай „Некалькі слоў літвіна”, у якой Паўловіч бараніў правы беларускіх сялян на асвету.

У 1859 годзе вярнуўся з падарожжа ў Наваградак, дзе пачаў працаваць выкладчыкам малявання ў гімназіі. Вёў антыалкагольную прапаганду сярод мясцовых сялян, у справе чаго выдаў ліст, адрасаваны святарству, які быў надрукаваны ў пецярбургскім выданні „Слово”. Свае погляды па сялянскім пытанні друкаваў у розных выданнях у Вільні і Парыжы. Пры падтрымцы куратара навагрудскіх школ Канстанціна Радзівіла заснаваў у Навагрудку жаночы пансіён і нядзельную школу для сялян, а ў 1860 г. аматарскі тэатр, дзе быў рэжысёрам, дэкаратарам і акцёрам. Разам з мясцовай шляхтай і мяшчанамі заснаваў Навагрудскую бібліятэку. Сродкі на яе ахвяравалі каля трыццаці чалавек, сярод якіх Адам Кіркор, Ян Наргілевіч, Уладзіслаў Борзабагаты, Феліцыян Лашкевіч. Абавязкі ганаровага куратара выконваў У. Брахоцкі, а сам Паўловіч быў бібліятэкарам. Шмат высілкаў прыкладаў, каб адкрыць помнік Адаму Міцкевічу на гары Міндоўга, на што расійскія ўлады не далі згоды.

З пачаткам паўстання 1863 г. удзельнічаў у нарадзе навагрудскіх мяшчан, якія выступалі за свабоду сялян. У сакавіку 1863 г. арыштаваны за „знойдзеныя ў яго творы злачыннага зместу і забароненыя лісты”, трапіў пад следства Мінскай следчай камісіі. Першапачаткова быў на волі, а ў маі 1863 г. трапіў пад арышт. Па выніках следства Паўловіча выслалі спачатку ў Петразаводск, пасля ў Аланецкую губерню. За некалькі месяцаў да вызвалення ад пакарання быў пераведзены ў Екацярынаслаў. Сям'і не меў. Атрымліваў на пражыванне 15 капеек у суткі і на здыманне кватэры 1 рубель 50 капеек на месяц.

Пасля вызвалення са ссылкі Паўловіч хацеў пасяліцца ў Пецярбургу, аднак не атрымаў на гэта згоды, пасля чаго ў 1867 г. вярнуўся ў Наваградак, затым пераехаў у Варшаву, дзе два гады працаваў у прыватнай мастацкай школе. Пасля пасяліўся ў Львове, працаваў настаўнікам малюнка ў жаночай настаўніцкай семінарыі, даваў прыватныя ўрокі, а ў 1870 г. уладкаваўся кусташам у Музеі Любамірскіх, дзе адпрацаваў 35 гадоў.

Паўловіч з'яўляецца аўтарам успамінаў і мемуараў розных гадоў. Сабраў звесткі пра культурна-грамадскае і літаратурнае жыццё Беларусі 1840-1860-х гадоў, побыт беларусаў, пра паэта Франца Савіча. Цягам жыцця займаўся навуковай дзейнасцю, жывапісам, працаваў у жанры партрэта, рабіў замалёўкі Навагрудка і ваколіц, пісаў абразы.

Памёр у адзіноце ў Львове 10 лютага 1909 года. Пахаваны на Лычакоўскіх могілках.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Культура пачынаецца з... пагоста

Могілкі могуць многа распавесці пра нас, жывых. Лычакоўскія ў Львове, Яна Райніса ў Рызе, Піскароўскія ў Санкт-Пецярбургу, безыменныя захаванні ў бяскрайніх казахстанскіх прасторах, дзе мне давялося пабываць у часе працы ў студэнцкім будаўнічым атрадзе. На кожным з пагостаў атмасфера спакою і гармоніі.

Іду няспешнаю хадою, час ад часу спыняюся, учытваюся ў эпітафіі, арыгінальныя запісваю, каб потым увекавечыць на чыіх-небудзь помніках.

„Бывайце, дзеці, унукі, землякі, мы адляцелі ў свой далёкі вырай” — такі надпіс віднее на помніку маіх бацькоў.

Заўсёды нясцерпна балюча наведваць тую частку могілак, дзе пахаваныя дзеці. Тут заўсёды прыгожа — шмат кветак і цацак. І да слёз кранаюць эпітафіі: „Нельзя забыть — вернуть невозможно”, „Блаженны чистые сердцем, ибо они Бога узрят”...

Сын мой загінуў у Польшчы. Пахаваны ў Дубічах-Царкоўных, бо побач жывуць самыя блізкія сваякі па бацькоўскай лініі, а таксама дачка з сям’ёй. Эпітафія на яго магільнай пліце такая: «Спыніцеся, успомніце мяне, я вам адгукнуся з майго далёку». Усе, хто яго ведаў і памятае, лічыць сваім абавязкам запаліць зніч і пакласці кветкі.

Я і сабе ўжо даўно выбрала словы, якія павінны быць на маім помніку: «Не вялікія справы даспадобы Богу, а вялікая любоў, з якой яны робяцца». Лічу, што яны (словы) тояць у сабе сутнасць маёй місіі на зямлі.

Няшмат людзей ведае, што вёска Сапанта ў Румыніі праславілася на ўвесь свет пагостам. «Вясёлыя могілкі» — так агучылі мае ўнучкі назву месца пасля яго наведвання. Справа ў тым, што ўсе помнікі тут выраблены адным майстрам, які іх не толькі стварыў, але і коратка апісаў чым нябожчык займаўся пры жыцці, суправаджаючы тэкст малюнкам і жартоўнай эпітафіяй. Пабеларуску яна гучала б так: «Пакінуў піць, бо спіць». І гэтак далей...

Насмяяліся, памінаючы добрым словам умельца, які поўніць мясцовую казну, заахвочваючы мноства турыстаў. Добра гэта ці дрэнна — не нам судзіць, але тое, што вёска праславілася сваім пагостам на ўвесь свет, — верагодны факт.

Прыемна здзівіла ўбачанае на могілках у Прыбалтыцы. Умеюць мясцовыя ўлады трымаць узорны парадак у месцах упакаення сваіх грамадзян.

У Польшчы таксама не бачыла занядбаных магіл. Што гэта? Пачуццё адказнасці перад пачыўшымі ці ўсё ж такі культура нацыі?

Думаю, што гэта ўнутраная патрэба кожнага жывога, чалавечы абавязак перад адышоўшымі і, канешне ж, культура паводзін.

«Помним, любим, скорбим», а вакол — крапіва і асот, за якімі не відаць помнікаў. Задумаемся?

Буду шчаслівая, калі маё рытарычнае пытанне не застанецца без адказу і на яго адклікнуцца тыя, хто забыў дарогу да магіл блізкіх сэрцу людзей.

**Тамара ЛАЎРАНЧУК**

# Пчолы і леснікі

Сусветны дзень пчол адзначаецца 20 мая. У свеце жывуць каля 20 000 відаў насякомых, якія адносяцца да пчалінай сям’і, у той час як у Польшчы іх больш за 450 відаў. Пчолы абслугоўваюць навакольнае асяроддзе, вырабляючы мёд. Аднак дзякуючы напружанай працы леснікоў яны могуць апыляць шматлікія віды раслін, забяспечваючы такім чынам харчаваннем не толькі людзей, але і жывёл. Пчолы нясуць адказнасць за апыленне больш за 77% відаў культур у свеце і з’яўляюцца адзінымі кузуркамі, якія вырабляюць мёд. Калі б не гэтыя насякомыя-апыляльнікі, шмат садавіны і агароднімы не было б зусім, а ўраджайнасць некаторых культур была б ніжэйшай. Кузуркі таксама апыляюць шматлікія мясцовыя віды дзікіх раслін і, такім чынам, забяспечваюць ежу дзікім спажыўцам, менавіта таму яны з’яўляюцца важным элементам прыроднай экасістэмы.

Праца насякомых-апыляльнікаў, сярод іншага пчол, уплывае на колькасць і якасць саджанцаў насення, неабходных для абнаўлення лесу. Яны таксама паляпшаюць лясныя культуры, якія з’яўляюцца харчовай базай жывёл.



Фота Адама Паўлоўскага

Пчолы могуць эфектыўна працаваць у натуральных умовах з дапамогай леснікоў. У Польшчы дзяржаўныя лясы займаюцца павелічэннем разнавіднасці відаў лясоў, у першую чаргу пасадкай меданосных відаў, гэта значыць ліпы, клёнаў і арабіны. Памянёўшаючы выкарыстанне хімічных рэчываў, леснікі распрацоўваюць сяродлесныя лугі і сады, у якіх уносяць біяцэнатычныя прымескі, якія выкарыстоўваюцца пчоламі, а таксама пакідаюць дрэвы з дуплами, у тым ліку і з дзікімі пчалінымі гнёздамі, пакідаюць фрагменты старых дрэў, якія з’яўляюцца выдатным месцам для стварэння пчаліных гнёздаў, прадухіляюць з’яўленне шкодных насякомых і хвароб, а таксама захоўваюць і аднаўляюць каштоўныя элементы прыроднага асяроддзя.

У 2017-2019 гадах Дзяржаўныя лясы рэалізоўвалі праект „Пчолы вяртаюцца ў лес”, накіраваны на абарону пчол як відаў, якім пагражае знікненне. У рэгіянальным упраўленні дзяржаўных лясоў у Беластоку леснікі распачалі праект „Традыцыйнае пчалярства як выратаванне дзікіх пчол у лясах”, які прадугледжвае аднаўленне традыцыйнага пчалярства і абнаўленне папуляцыі дзікіх пчол, якія жывуць у Аўгустоўскай, Белавежскай, Кнышынскай і Піскай пушчах.

Вымiранне пчол мела б катастрафічныя наступствы. Кожны з нас можа спрыяць абароне гэтых насякомых. Дзяржаўныя лясы рэкамендуюць ствараць кветкавыя лугі, будаваць усё больш папулярныя гатэлікі для дзікіх апыляльнікаў або высаджваць меданосныя расліны ў наваколлі.

Ці ведаеце, што адна пчала вырабляе прыблізна... адну чайную лыжачку мёду на працягу ўсяго жыцця? Каб вырабіць 1 кг мёду, пчолы павінны садзіцца каля 4 мільёнаў разоў на кветкі ці лісце, збіраючы 3 кг нектару і пралятаючы адлегласць ад 40 000 да 80 000 кіламетраў.

**(лук)**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — народную пагаворку.

1. прылада для галення = 38 _ 42 _ 41 _ 40 _ 43 _ 18 _;
2. горад на Дунаі на поўнач ад Будапешта = 12 _ 47 _ 46 _;
3. магутнасць = 14 _ 39 _ 45 _;
4. прыродная мінеральная сыравіна з металамі або іх злучэннямі = 11 _ 1 _ 48 _ 49 _;
5. месца з яблынямі і грушамі = 52 _ 7 _ 17 _;
6. правы прыток Радана = 32 _ 23 _ 25 _ 26 _;
7. смутак = 27 _ 36 _ 2 _;
8. рытуальная забарона = 28 _ 29 _ 22 _ 20 _;
9. урачысты кандытарскі выраб з крэмам = 35 _ 3 _ 37 _ 24 _;
10. скрынка, у якой хаваюць пакойніка = 19 _ 21 _ 44 _ 50 _ 51 _;
11. маскоўскі ўладар = 33 _ 31 _ 30 _;
12. хвойнае вечназялёнае дрэва (*Taxus baccata*) = 9 _ 10 _ 8 _;
13. левы прыток верхняй Прыпяці = 16 _ 15 _ 13 _ 4 _ 34 _ 6 _ 5 _.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | | | | | | |
| | | | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | | | | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | 17 | 18 | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| | 25 | 26 | | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 |
| | | | | | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 |
| 42 | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 | 49 | | 50 | 51 | 52 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 19 нумара**

Віна, дамба, Дзяды, іней, клей, По, сум, цемя, шыя.

Рашэнне: **Думкі падобныя дзецям — наймілейшыя свае**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міхалу Байко** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# 07.06 — 13.06

**(22.03. — 20.04.)** Задзівіш блізкіх клапатлівасцю. Не пачынай амбітных заданняў. 7-8.06. будзеш вельмі раздражнены. Менш баявітасці і энергіі, не праводзь рызыкоўных заданняў аж да 28.06. У старэйшых Бараноў можа паявіцца хтосьці з даўніх гадоў. На працы не перацэньвай сваіх сіл, умеласцей і знаёмстваў. Найлепш суцішыся і адпачывай на ўлонні прыроды.

**(21.04. — 21.05.)** Часам будзе пад вецер, але не паддавайся. Задбай аб здароўе, добрыя адносіны з блізкімі і добры настрой. Сатурн будзе спачатку кідаць калоды пад ногі, але кожная можа аказацца быць шанцам, каб парваць з руцінай і спрабаваць чагосьці новага. На працы можаш быць бунтарскі, што можа кончыцца канцом з гэтай работай, але станеш панам сваёй кар’еры. 9-13.06. вельмі пільнуй нерваў, бо вялікая рызыка памылкі. Еж легкатраўнае, гародніну і садавіну

**(22.05. — 22.06.)** 7-9.06. пагражаюць табе кантузіі і аварыі. Знойдзеш у сабе сілу на амбітныя планы. Твая мілата паможа знайсці табе многіх саюзнікаў. На небе выбуховая мяшанка. Будзеш вабным аб’ектам. Але зважай на тое, што нявінны быццам бы флірт можа прыўнесці фатальны вынік. Да працы падыдзеш творча. Ахвотна чагосьці навучышся ці пашукаеш новых абшараў. Умеласць добрай «продажы» сябе можа быць ключом да павышэння ці новай пасады. Трапныя інвестыцыі з першай дэкады будуць мець вынікі ў канцы чэрвеня.

**(23.06. — 23.07.)** Дасі з сябе ўсё, а твае высілкі аплацяцца двойчы. Давер людзям, бо яны хочуць твайго шчасця. Энергія да дзеяння, вельмі многа зробіш дабра для іншых. Выдатны ўвесь месяц, каб засяродзіцца на сваёй кар’еры. З 10.06. (да 16.06.) маеш шанц знайсці сваю жыццёвую дарогу. Дзве першыя дэкады ты пазбаўлены жыццёвых сіл і імунітэту на інфекцыі, дык пільнуйся!

**(24.07. — 23.08.)** Выйдзеш на простую дарогу з жыццёвых паваротаў. Шчасце ў абдымках каханай асобы. 7-8.06. лепш уступі. Час на духоўныя пошукі і ўнутраны развой. На працы пазбягай інтрыг — 9-13.06. можаш стаць іх ахвярай; не ангажуйся ў ніякія закулісныя гульні, засяродзься на абавязках. Не ары ад рання да ночы, хопіць таго, што маеш. 9-13.06. будзеш рассеяны, стомлены, не бяры на сябе больш, чым можаш, лепш адпачывай.

**(24.08. — 23.09.)** Перашкоды пачнуць знікаць. Пачнеш снаваць прыгожыя планы. Пазмагайся за тое, што табе хоча адняць канкурэнцыя. 7-8.06. нічога не рабі паспешліва і непрадумана. 10-16.06. хтосьці прывабны заляціць табе ў вока і будзеш гатовы на ўсё. 9-13.06. могуць ажыць старыя непрыемнасці. На працы недакладнасці і домыслы, старайся дапрацаваць усе ўмовы і мець усё пісьмова. Лепш трымайся старых сцежак, пазбягай эксперыментаў і не ўводзь навін туды, дзе ўсё спрацоўвае. У здароўі азвуцца старыя нямогласці.

**(24.09. — 23.10.)** Найважнейшыя для цябе будуць блізкія, але не забывай пра сябе. 9-13.06. будзеш памыляцца, хоць будзеш упэўнены, што маеш рацыю. Пашырыцца кола тваіх знаёмых. Пастаянным парам увесь месяц вельмі добра пад апекай Венеры. Але на пачуццёвыя памылкі будуць уражлівыя Шалі пераломy II і III дэкады. Дома 9-13.06. многа хваляванняў. На працы важны ўрок: можа трэба будзе пакінуць старыя метады і навучыцца чамусьці новаму. Яшчэ 6.06. можаш нарвацца на цікавую інфармацыю аб новай працы.

**(24.10. — 22.11.)** Рушыш з капыта і не будзеш пазбягаць ніякіх выклікаў. І добра — поспех як рукой падаць. Зоркі задбаюць аб твае інтарэсы і памножаць маёмасць. У каханні горача і рызыкоўна. Дома паставіш на блізкіх. Скарпіёны з III дэкады будуць мець найбольшыя трыумфы. 7-8.06. хтосьці схоча цябе вывесці з раўнавагі — не давайся!

**(23.11. — 22.12.)** Аптымізм. Пры крысе высілку справішся з усімі выклікамі. Пагодзішся з партнёрам, сям’ёй, сябрамі. Дацэніш партнёра. Не рабі цяпер рамонтаў ці іншых прац. На рабоце працаваць будзеш за трох, але не наракай 7-9.06. твой арганізм можа запратэставаць; час адпачынку гэта не страчаны час!

**(23.12. — 20.01.)** Палагодзіш канфлікты. Шчырая размова — ключ да ўсіх вырашэнняў. Не марнуй часу на драбязу 9-13.06. Твае прыёмы будуць трапнымі і прынясуць канкрэтныя карысці. Будзеш мець славу добрага спецыяліста, што дасць новыя заказы, або новы штат. Умеласць з першай дэкады прынясе табе заказы ў апошнім тыдні. Дбай аб пазваночнік!

**(21.01. — 19.02.)** Інтэнсіўнае кампанейскае жыццё. Не адна прычына для радасці аж да 21.06. Яшчэ 6.06. заззяеш неканвенцыянальнай задумай. Але 7-8.06. пільнуйся ад неразважных інвестыцый. У пачуццях мінуць праблемы. Чакае цябе больш працы, творчай, пашыраючай гарызонты, але патрэбнае будзе абучэнне. Але штосьці, што мела даць добры прыбытак, можа прынесці страты. Разварушыся, але і парабі медабследаванні.

**(20.02. — 21.03.)** Дакажаш, што можаш шмат і трэба з табою лічыцца. Але не стаў усяго на адну карту. Нептун можа цябе завесці на бездарожжы, і не будзеш мець часу на одум, зробіш пару неабдуманых рашэнняў; зоркі змінімізуюць іх благі ўплыў. А на працы ўстрымайся ад змен. Вернуцца табе раўнавага, энергія і ззянне ў вачах!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У Аўгуставе

Заглянуў на царкоўны сайт, дзе прыходскае свята Ушэсця. У некалькіх мясцовасцях, з якіх найзручней — у цяперашніх камунікацыйных абставінах — было дабрацца ў Аўгустаў. Быў я там не надта даўно, пачалася тады пабудова новай царквы і цяпер цікава было, як прасунуліся будаўнічыя працы.

У Аўгустаў з раніцы можна дабрацца толькі чыгункай — цягнік адпраўляецца з Беластока зараз пасля пятай. Беластоцкая гарадская камунікацыя ў тую пару яшчэ толькі пачынае курсіраваць і на станцыю трэба было дабірацца пяшком — сорак-пяцьдзясят мінут. Білетныя касы яшчэ не працавалі. Калі я набліжаўся да поезда, з мегафонаў раздалася інфармацыя, што цягнік у Сувалкі, а значыць і ў Аўгустаў, даедзе толькі да Саколкі, а далей будзе эрзацны аўтобус. Ну, добра, у Аўгустаў такім чынам то я дабяруся, але як будзе вярнуцца? Ці не падаць назад ужо ў Беластоку? Экіпаж цягніка паведаміў мне, што падарожжа назад будзе адбывацца па рэйках...

Ну то забіраюся. Перад былой перагрузачнай станцыяй у Геніюшах відаць невысокія тэрыконы новых шпал. Далей ляжаць і новыя рэйкі — значыць, будзе абнаўленне чарговых пуцей. А можа будзе і абнаўленне таварнага тэрмінала?.. Пакуль што на рампах з патрэсканымі бардзюрамі высечаны садок, які там вырас цягам апошніх гадоў рампавай бяздзейнасці. Іншых ластавак рэанімацыі перагрузачнай станцыі не відаць, большасць рэек зарасла травою, у тым ліку і шырокі пуць для цягнікоў з Усходу.

У Саколцы перасадка на аўтобус у напрамку спярша Дубровы. Паміж гэтымі гарадамі ляжыць ужо паласа новай дарогі з гатовым асфальтавым насцілам, але яшчэ не ўся здадзена ў карыстанне — па некаторых адрэзках ужо адбываецца рух, некаторыя яшчэ закрыты для падарожнікаў.

Ад чыгуначнага прыпынку Аўгустаў-Порт да цэнтра горада каля двух кіламетраў. Але раней знаходзіцца квартал Кашары, значыць казармы, дзе знаходзіцца касцёл даволі арыгінальнага выгляду. Справа ў тым, што казармы былі пабудаваны ў царскі час і ў казарменным комплексе была ўзведзена царква для расійскага войска. Калі на змену расійскаму войску ў казармы прыйшло польскае войска, то і храм памяняў сваё аблічча. У міжваенны час сілуэт храма не змяніўся, памянялі толькі крыжы... А ў 1939 годзе настала ў Аўгуставе савецкая ўлада, у казармы прыйшло савецкае войска, крыжы былі скінуты, іх месца занялі чырвоныя зоркі. Будынак быў прызначаны спярша на вайсковую святліцу, а пасля на стайню і склад. У нямецкую акупацыю будынак падобным чынам служыў нямецкаму войску.

Вайна нясе з сабою знішчэнне, асабліва тых будынкаў, якія могуць служыць вайсковым мэтам. У ліку такіх аб'ектаў і храмавыя вежы, адкуль даволі выгадная разведка размяшчэння войск праціўніка. Ну і з аўгустаўскага храма вежу абвалілі; касцельны партал не падае, чые снарады распрaвіліся з найвышэйшай часткай храма. А ніжэйшыя парты ўцалелі, але таксама часткова пацярпелі. У першыя пасляваенныя гады ў будынку быў склад розных матэрыялаў. У 1956 годзе, у „адлігу”, будынак быў перададзены мясцовай каталіцкай супольнасці.

Будынак сталі даводзіць да такога стану, каб магчыма было адпраўляць там набажэнствы. І так паступова храм станавіўся „на ногі”. З 1957 года можна было адпраўляць набажэнствы толькі па нядзелях, а з канца 1960-х гадоў таксама ў будзённыя дні. Чарговыя рамонты адбываліся ў 1970-х гадах, а з 1 студзеня 1980 года была там заснавана самастойная парафія. У 1978 годзе была дадзена згода адміністрацыйных улад на адбудову касцельнай вежы — яе будова была завершана ў 1991 годзе. Тая высокая касцельная вежа здаецца мне быць свайго роду сімвалам канверсіі храма — выглядае яна быццам постаць Юрыя Пераможцы над адоленым змеем... А нябеснае заступніцтва парафіі было даручана Чанстахоўскай Божай Маці...



Касцёл Чанстахоўскай Божай Маці



Плябанія і новая царква ў Аўгуставе

Я так сабе быў ставіў пытанне, чаму Чанстахоўскай, а не віленскай Вастрабрамскай, бо ж, калі не памыляюся, Аўгустаў быў даўней у межах Віленскай архідыяцэзіі. Падумалася мне, што станаўленне парафіі адбывалася ў той час, калі духоўны кантакт з Вільняй быў вельмі ўскладнены, а з Чанстаховай амаль беспраблемны — у Чанстахову тады было бліжэй. Што людзі тады, аддзеленыя ад Вільні савецкай граніцай, адвострабрамляліся, і ў сілу абставін учанстахаўляліся...

Чанстахоўскае прысвячэнне мела, аднак, свае глыбейшыя гістарычныя карані. Менавіта ў міжваенны час храм быў гарнізонным касцёлам для 1 палка Крэхавецкіх уланаў. А ветэраны гэтага палка сталі асаднікамі на Валыні і ўзвялі ў Карлаўшчыне каля Роўнага свой касцёл, які атрымаў у падарунку ад чанстахоўскіх манахаў копію Чанстахоўскага абраза Божай Маці; абраз сталі называць Крэхавецкай Божай Маці. Той абраз пасля вайны апынуўся ў Польшчы і ў 1984 годзе быў перададзены ў Аўгустаў...

Партал аўгустаўскай парафіі апісвае міжваенную працэсію абраза ў карлаўшчынскі касцёл; у скарачэнні было так: Па абраз у Чанстахову 22 мая 1939 года падалося спецыяльнае паломніцтва каля 800-1100 асоб у поездзе з 32 вагонаў. Затрымаліся яны ў Варшаве, дзе ўшанавалі памяць Андрэя Баболі і Юзафа Пілсудскага. У Чанстахову паломнікі прыбылі 24 мая. Пасля адмысловых набажэнстваў на вечар 25 мая абраз быў памешчаны ў вагон са спецыяльнай капліцай. Па Валыні абраз паломнічаў некалькі дзён і 29 мая быў устаноўлены ў касцёле ў Карлаўшчыне; ва ўрачыстасці ўдзельнічала каля пятнаццаці тысяч вернікаў...

А мне зноў завітала ў галаву іншая асацыяцыя Чанстахоўскага абраза з Аўгуставам, у гэты раз праваслаўная. Менавіта ў Вікіпедыі ў артыкуле пра Аўгустаўскую ікону Багародзіцы прыводзіцца расказ царскага кірасіра Дзмітрыя Сяргіна: „Я стаяў на варце. Глянуўшы на зорнае неба, я ўбачыў асабліва яркую зорку, якою я доўга любаваўся. Пасля — гэта было каля адзінаццатай ночы — я пабачыў, што вакол гэтай зоркі з'явіўся круг зязючых зорак, а тая першая стала цямнець і на яе месцы стаў вырысоўвацца абраз Божай Маці з Дзіцяткам Ісусам Хрыстом на левай руцэ, а правая рука была крыху працягнута і мне падалося, што яна нас быццам благаслаўляла. Божая Маці глядзела ў напрамку горада Марыямпаля. Вакол галавы Божай Маці было яркае ззянне. Выява Божай Маці была відна да пояса, а апошнія часткі цела былі закрыты воблакамі. Воблік Божай Маці быў спакойны, не суровы, верагодна ласкавы. Выява паказалася мне падобнай на ікону Чанстахоўскай Божай Маці. Гэтую з'яву я бачыў выразна і ясна, доўжылася яна мінут 10 або 15. Я быў ёю вельмі ўражаны. Пасля пабег паведаміць пра гэта сваім таварышам. Калі вярнуўся і зноў стаў прыглядацца, то відзеж гэтая ўжо змянілася, яна паблядняла, паступова змяняючыся ў светлую пляму. На фоне гэтай плямы можна было заўважыць выяву крыжа, быццам з воблакаў. На месцы гэтай відзежы зноў заззяла тая ж яркая зорка...”. Даведка падае, што было гэта ноччу з 13 на 14 верасня паводле новага стылю 1914 года. Магчыма, што ў тым расказе было столькі ж праўды, што і ў тадышніх расказах пра здзекі немцаў на насельніцтве займаных тэрыторый, што гэты сюжэт быў прыдуманы царскімі палітрукамі. Бо духавенства ў час сусветнай вайны таксама ўключылася ў агульную катавасію, цягнучы ў свой бок свае пантэоны, напрыклад, у Германіі і Аўстра-Венгрыі людзі віталіся і развітваліся фразай «Gott strafe England!» (Бог пакарае Англію). Першыя праваслаўныя іконы Аўгустаўскай Божай Маці былі напісаны ўжо ў 1915 годзе...

Як бы там не было, Чанстахоўская Божая Маці трапіла ў Аўгустаў з двух напрамкаў. Касцёл Чанстахоўскай Божай Маці знаходзіцца на ўсходніх акраінах горада. На заходняй акраіне горада ўзводзіцца царква Узнясення Гасподняга, у якой мае апынуцца і ікона Аўгустаўскай Божай Маці, якая была прынята Рускай праваслаўнай царквой у 1916 годзе. Якая, па сведчанні царскага кірасіра, мае быць таксама своеасаблівай копіяй Чанстахоўскага абраза Божай Маці...

А ў самім цэнтры Аўгустава знаходзіцца часовая царкоўка ў цеснай мураваначцы. Падаўся я туды ў спадзяванні, што там можа правіцца набажэнства ў прыходскае свята. Але на браме ў двор, дзе той будыначак, вісеў замок. Тады змеркаваў я, што святочнае набажэнства можа ўжо правіцца ў новай царкоўцы. Хаця і сумняваўся, бо на прыходскім партале пра святкаванне ў мінулых гадах адзначаць чацвярговае свята ў Крынкі. Матушка паведаміла мне, што і сёлета ўзнясенскае свята ў Аўгуставе будзе адзначацца ў найбліжэйшую нядзелю.

Калі я быў у Аўгуставе тры гады таму, пад новую царкву і плябанію былі толькі заліты фундаменты. Зараз там ужо іншы від. Узведзена і абжыта плябанія. І на мураванай з цэглы царкоўцы купал, завернуты яшчэ ў фольгу. У плябаніі была толькі матушка; бацюшка паехаў адзначаць чацвярговае свята ў Крынкі.

Матушка паведаміла мне, што і сёлета ўзнясенскае свята ў Аўгуставе будзе адзначацца ў найбліжэйшую нядзелю.

З Аўгустава ў Беласток вярнуўся поездам. На адрэзку ад Ружанастока да Сідры ўзмацняецца чыгуначны насып, таму час ад часу пуць заняты будаўнічай тэхнікай. А ў Саколцы ўзведзены ўжо асноўныя пралёты віядука над чыгуначнымі пуцямі — у напрамку Крынак.

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 23